

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(96) Студзень 2002 January Год выд. 10.


Ужо зусім мала нязведанай завейнай дарогі засталося да той чаканай і загадкавай мяжы, за якою для ўсіх нас расчыніць дзверы новы, другі ў трэцім тысячагоддзі, год. Ужо блізка бачны ягоны пасярэбраны інеем парог. І хочацца, вельмі хочацца хоць краёчкам вока як найхутчэй разгледзець, што ж там, за гэтым парогам, за мітуслівымі агеньчыкамі ёлак і тлумнымі калляднымі карагодамі. Ногі самі сабою нецярпліва прыспешваюць хаду, у грудзях пачынае гучней грукаць сэрца і ў засмужаную прастору клічуць нечакана памаладзелыя мары. Але трэба абавязкова хоць на некалькі задумных хвілін прыпыніцца і азірнуцца на мінулыя ўжо дні, што склалі год 2001-ы.



Што ён пакінуў назаўсёды ў гісторыі, што накрэсліў у зямным нашым летапісе, якімі маршчынамі лёг на маладое аблічча дваццаць першага стагоддзя?

Перабіраю ў памяці падзеі, справы, сенсацыі, узрушэнні, расчараванні — і душу ўсё больш апаноўвае адчуванне неспакою, турботнага хвалявання і неўсвядомленай небяспекі. За сонечнымі ўспышкамі шчасця і перамог, якія, безумоўна ж, былі, — як пачварныя здані, чорнымі дымнымі слупамі паўстаюць абрынутыя страшэннымі выбухамі вежы сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку. І ніякімі прачулымі пропаведзямі ў кафедральных саборах, ніякімі адзінадушнымі мудрымі палітычнымі пагадненнямі не суцішыць той пакутны боль, што на момант працяў насельнікаў зямлі. Для ўсіх раптам стала відавочнай пагроза шалёнага фанатызму, раз-

# Прыпыніцца, азірнуцца...

губленнасць цывілізацыі перад звярынай сваволяй тэрарыстаў. Злучаныя Штаты Амерыкі, якія так ганарыліся перад усім светам не толькі багаццем, а і надзейнай абароненасцю перад войнамі, што віравалі заўсёды недзе далёка ад іх, цяпер у самым славутым сваім горадзе пачулі і перадсмяротныя стогны жанчын, і няўцямныя крыкі асірацелых дзяцей, і пагрозлівы гул бязлітаснага пажару. Ні найсучаснейшыя радары, ні хітрыя сістэмы розных "ядзерных парасонаў", ні бетонныя бомбасховішчы, аказваецца, не змаглі ўратаваць грамадзян вялікай краіны ад д'ябальскай сілы і каварства зла. Можа, упершыню ў найноўшай гісторыі чалавецтва "акулы імперыялізму" і прававерныя камуністы, высакалобыя лібералы і раўнадушныя абываецелі зразумелі, што ў захаванні жыцця трэба быць разам, што дапытлівы калектыўны розум павінен шукаць тое, што аб'ядноўвае, а не тое, што аддаляе і раскідвае людзей па абгароджаных ідэалагічнымі дратамі "акопах". Гэта быў вельмі важны і вельмі суровы сігнал і ўрок. І не дай Божа ў мітусні новых клопатаў і спрэчак, у будзённых працоўных высілках і смелых фантастычных парываннях забыць яго ці палічыць неістотным. А гэткае, на жаль, бывала ўжо, і не аднойчы...

Для беларускіх палітыкаў (і, вядома ж, не толькі для іх) мінулы год даў яшчэ адзін запамінальны ўрок, звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі. Не будзем тут узгадваць усе перыпетыі няпростай прадвыбарчай кампаніі, неадназначныя і небяспрэчныя яе вынікі – тое ўжо спрабавалі зрабіць палітолагі і журналісты, тое яшчэ належыць цвяроза ацаніць гісторыі, – адзначым адно, у чым на гэты раз, здаецца, сышліся і пераможцы, і прайграўшыя: Беларусь не можа далей жыць без пераменаў. Тое ціхае балота, у якім старанна трымаюць нас гадаванцы старой савецкай сістэмы, пачынае ўжо зацягвацца мёртваю сівой цінай і адпалохвае ад сябе ўсіх, хто мог бы кінуцца на дапамогу. Нельга таптацца на месцы, калі пад нагамі гразкая, смуродная твань, калі ўсё далей і далей убок пракладаюць свае бойкія бальшакі суседзі. З высокіх трыбун нават трохі непрывычна і нечакана загучалі ў нас раптам заклікі да лібералізацыі эканомікі, дэмакратызацыі жыцця, да неабходнасці вяртання ў прасторны еўрапейскі дом. Загучаць-то загучалі, ды толькі канкрэтных спраў, сур'ёзных дзяржаўных рашэнняў так і не відно. Нашы кіраўнікі зноў сябе і іншых палохаюць то "шокавай прыватызацыяй", то замежнай фінансавай экспансіяй, то масавымі звальненнямі працоўных, то натаўскай агрэсіяй. Атрымліваецца, як пісаў класік марксізму-ленінізму, крок наперад – два крокі назад. А свет, між тым, не стаіць на месцы, праз цяжкасці і пошукі, праз страты і азарэнні настойліва прадзіраецца да светлых вяршыняў дабрабыту і справядлівасці.

Думаю, і яшчэ адну ісціну красамоўна пацвердзілі мінулагоднія выбары: лёс Беларусі могуць і будуць вырашаць урэшце рэшт толькі самі беларусы. Ні маскоўскія паліттэхнолагі, ні вашынгтонскія кансультанты не здольныя за нас адбудаваць нашу Бацькаўшчыну. Вядома, трэба сябраваць і супрацоўнічаць з дасведчанымі людзьмі ў Крамлі і Бруселі, у Пекіне і Варшаве, але чорную працу па ўсталяванні беларускай дзяржаўнасці, па наведзенні парадку ў нашай разбэрсанай гаспадарцы павінны зрабіць мы самі. Паслухайце ўважліва, скажам, Генадзя Селязнёва ці Ганса Георга Віка, прааналізуйце іх ацэнкі і парады – і вы зразумееце, што перш-наперш яны клапоцяцца пра свае інтарэсы, інтарэсы вялікай Расіі, інтарэсы Заходняй Еўропы. І нічога ненармальнага і дзіўнага ў гэтым няма. Ненармальна і дзіўна, калі кіраўнік краіны шчыра прызнаецца, што лічыць свой народ, сваю зямлю надзейнай заслонай ад варожага нападу для суседняй, хай сабе і братэрскай, дзяржавы. Вось тут дык ёсць над чым задумацца. Але ці задумваемся мы, браткі беларусы? Ці патрабуем ад сваіх лідэраў жорсткай адказнасці за усе іх словы і справы? Ці прымушаем іх адчуваць сябе перш за ўсё сынамі свайго спрадвечнага краю, а пасля ўжо прэзідэнтамі, міністрамі, банкірамі, дыпламатамі?.. Чаму мы з радасцю шукаем вінаватых у сваёй беднасці і недэмакратычнасці недзе далёка за мяжою, у чужых сталіцах, а не ў саміх сабе, не ў Мінску ці Гомелі, Магілёве ці Брэсце? Няўжо нехта нам на парашутах скінуў і палахлівых дэпутатаў, і жахлівыя таямнічыя "эскадроны смерці", і няправедных суддзяў, і хлуслівых тэлекаментатараў, і тупых чыноўнікаў?.. Як ні горка прызнавацца, нашы яны, "айчынныя", і разбірацца з імі давядзецца нам...

Апошнімі гадамі мы адвыклі ад переднавагодніх маразоў і завірух, ад снежаньскіх заінелых лясоў і рыпучых санных дарог. А вось сёлета ўсё гэтае нам зноў шчодра падарыла прырода, нібы вяртаючы спрадвечнае і неразумна забытае. Можа, і ў палітычным жыцці ў 2002 годзе мы прыйдзем таксама да свайго роднага і агульнапрызнанага, да адчування дзяржаўнай годнасці і самастойнасці, да нацыянальнай згоды і еднасці, да спакойнай супольнай стваральнай працы?.. Ох, як гэтага хочацца!..

Мы толькі на хвілінку прыпыніліся перад парогам у новы год, толькі на імгненне азірнуліся на нядаўняе былое. І давайце рушым хутчэй наперад — рашуча, дружна, свядома!

**Генадзь БУРАЎКІН** (Бел. Час)



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Незалежнасць ад Савецкага Саюзу

Інтэрв'ю старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча Нашай Свабодзе на першы юбілей Белавежскага пагаднення

***— Усе мы разумеем, што атрымалася з Белавежскіх падзеяў 1991 года. Перавярнуўся свет, перастала існаваць агрэсіўная імперская краіна – яна развалілася. Што Вы можаце расказаць пра тое, як гэта адбывалася? З чаго пачалося – пэўна, была ж нейкая перадгісторыя? Ішлі ж, відаць, нейкія перамовы – гэтак зрабіць ці інакш. Як гэта ўсё вырашылася?***

- Размовы аб новых прынцыпах узаемадзеяння асобных суб'ектаў СССР вяліся загадзя – яшчэ у той час, калі я не меў дачынення да кіраўніцтва рэспублікі. І саюзныя дагаворы былі, пасля быў жнівень 91-га. Так што радок у самым пачатку Белавежскага пагаднення «СССР спыняе сваё існаванне» – гэта канстатацыя.

Гарбачоў хацеў, як некалі Чэхаў пісаў, што ад малога да вялікага ўсе рабы ў Расіі, дык каб у наш час усе ад малога да вялікага бальшавікамі сталі. Ён хацеў надаць бальшавізму чалавечы твар, а сабой замяніць бюро ЦК КПСС, быць прэзідэнтам, але прыкладна пры ранейшым змесце існавання. Нейкі сацыялізм, нейкая агульная маёмасць і г.д. Дык вось, ён хацеў заключыць саюзны дагавор і праектаваў гэты саюзны дагавор. Але ў яго не хапіла мужнасці пайсці на канфедэрацыю дзе-небудзь у сакавіку 91-га году. Тады б гэта на ўра прыняў з'езд народных дэпутатаў. У яго не хапіла рашучасці на такі новы крок. Відавочна, ён зрабіў вялікую справу. І наўрад ці ўжо можна было другую вялікую справу зрабіць. Апошні яго захад адбыўся 21 кастрычніка, калі ён прапанаваў новы тэкст гэткага дагавору. Фактычна заставаўся ранейшы Саюз, які толькі называўся канфэдэрацыяй. Ну, я прыкладна яму гэта і сказаў. Ельцын таксама сказаў нешта такое. Гарбачоў пакрыўдзіўся і пайшоў з нашага дзяржсавета. Ну, Карымаў і іншыя кажуць: «Раз вы нас з ім увялі ў такі стан амаль варожы, дык ідзіце цяпер цягніце яго назад». Мы і пайшлі, дамовіліся аб сустрэчы — ужо ў Белавежскай пушчы на паляванні.

***— З тым самым Гарбачовым?***

— Не, напачатку з Ельцыным. А пасля прывялі і Гарбачова. І ўсё пайшло зноўку. Як заўсёды на дзяржсавеце, былі толькі два варыянты вырашэння пытання: альбо ўсе падпісвалі тое, што прынёс Гарбачоў, альбо нічога не падпісвалі наогул. Карэктывы ўносіць было немагчыма, Гарбачоў быў упэўнены, што ўсё зроблена добра. Такая была спецыфіка часу.

***— А як Вы тады запрасілі Ельцына ў пушчу? І як да гэтага палявання далучыўся Краўчук?***

— Тады, 1 снежня, праходзіў рэферэндум на Украіне па пытанні незалежнасці, і адказ быў зразумелы. Сацыялагічныя даследаванні гэта паказвалі. А ў нас былі эканамічныя праблемы — паміж Беларуссю і Украінай. Трэба было іх вырашаць разам. І таму, ведаючы, што сустрэча ў пушчы будзе, Кебіч мне кажа, што, можа, было б добра запрасіць Украіну. Ну, я кажу, узгадні ў рабочым парадку, калі яны згодныя, тады я ўзгадню з Ельцыным. Так і сталася.

***— А калі сабраліся ў Віскулях, то ўжо ўсе дакументы былі падрыхтаваныя?***

— Не, нічога не было, пісалася на месцы. Ва ўсялякім разе, калі нешта было падрыхтавана, то я пра гэта не ведаю. Зразумела, былі падрыхтаваныя дакументы, але зусім не для падпісанага там пагаднення. Там ішлі перамовы паміж урадавымі дэлегацыямі па шэрагу эканамічных пытанняў, яны тады называліся гаспадарчымі часцей, чым эканамічнымі. Гэтыя ўсе пытанні абмяркоўваліся, бо дэлегацыі былі вельмі ўплывовыя. Дзярж-сакратар ад Расіі быў, былі Гайдар, Козыраў. Усе эканамічныя праблемы вёў Гайдар, міжнародныя — Козыраў як міністр замежных справаў. Тое самае з боку Украіны — Фокін і быў міністр замежных справаў. Так што можна было абмеркаваць любое пытанне.

***— Было адчуванне таго, што адбываецца такая маштабная падзея?***

— Шчыра кажучы, я такога адчування не меў. Я проста лічыў, што трэба рабіць работу. Ну я і рабіў. У мяне не было пафасу адчування гістарычнасці падзеі. Не. Гэта пасля ўжо...

***— Але ж калі падпісвалася такая дамова, то, па сутнасці, рушылася якая-небудзь іншая, якая праіснавала колькі гадоў... Нейкія трэнні мусілі быць... Ці былі?***

— К таму часу я быў глыбока перакананы, што раз ужо прыбалты адышлі, то сістэма пачала развальвацца. Працэс пайшоў. Я добра разумеў, што значыць заява пра «спыненне існавання». Але вось такога адчування, што мы робім суперсправу, – такога не было.

***— Паляванне ўсё ж такі адбылося? Звычайнае паляванне?***

— На паляванне хадзілі толькі два чалавекі — Краўчук і Фокін. Ну відавочна, было нармальнае паляванне па канонах, я ніколі на паляванне не хадзіў у жыцці, і там не збіраўся ісці. Фокін падстрэліў кабанчыка, а Краўчук — не. Быў нават жарт распаўсюджаны, ці то міф, ці то праўда было, не ведаю да гэтага часу, бо Краўчук добры паляўнічы лічыцца. А так казалі, што ён перабіў тую вяроўку, якою быў прывязаны для яго кабанчык, а Фокін трапіў у свайго кабанчыка, гэта значыць, які быў для яго прывязаны.

***— А калі далей разглядаць ужо вынікі гэтых падзеяў? Як усё праходзіла ў Вярхоўным Савеце? Бо вось, скажам, адна вядомая асоба ўвесь час спекулюе на гэтую тэму - што яна там адзіная галасавала супраць...***

— Па-першае, гэтая асоба, якая спекулюе, нават не прысутнічала на паседжанні, гэта пратакольна зафіксавана ў Вярхоўным Савеце, і не ведаю чаму, мо збегла. Галасаваў супраць у нас адзін чалавек – гэта Ціхіня Валерый Рыгоравіч. Яшчэ выступалі супраць фронтаўцы, Зянон Пазьняк, бо ён неяк разумеў, што вось новы саюзны дагавор селі разглядаць. Як быццам бы можна было гаварыць аб тым, што іншым далучацца нельга. А так у нас на рэдкасць адзінадушна прайшло. У Расіі было, дакладна, я памятаю, шэсць галасоў супраць. У нас – адзін. Бо ў Расіі была двухходоўка. Яны юрыдычна ратыфікавалі пасля нас, але практычна яны з усім пагадзіліся да нас. Там вельмі палка выступаў Ельцын. Ён казаў, што саюз ужо загінуў, што контуры гэтага пагаднення былі відаць яшчэ год назад. І ён пераконваў значна больш сур'ёзна. Я баяўся ратыфікацыі, бо калі б не ратыфікавалі, значыцца, мне трэба было б ісці ў адстаўку, таму што я падпісаў пагадненне, перакананы, што яно правільнае, і я правільна зрабіў, і ўсё. І ратыфікавалі на рэдкасць дружна. Бывае, як кажуць.

***— Калі вярнуцца назад у Белавежскую пушчу, там, калі адбывалася менавіта сама падзея, ці былі нейкія супрацьдзеянні? Ну, хоць бы таму, што ўрад у нас таксама быў створаны партыйнай наменклатурай і яго ўзначальваў Кебіч?***

— Тут, бачыце, падпісанне ішло дзвюма асобамі ад краіны. Наогул спачатку думалі падпісваць толькі ўтрох — першыя асобы дзяржаваў. Ну, а пасля ўжо вырашылі, каб было відаць адзінства ўрада, заканадаўчай і выканаўчай уладаў, то шасцёра падпісалі, і абмяркоўвалі ўсе пазіцыі шасцёра. Так што цэлы дзень працавалі над гэтым, усё было прынята кансэнсусам. Нічога ніхто, нідзе ніяк супраць не выказаўся. Ну а пасля Кебіч ужо пачаў каяцца. Ён сказаў, што зрабіў памылку, што выправіць яе сваім жыццём і ўсё такое. Мне здаецца, цяпер ён зноў паразумнеў, бо ўжо так болей не кажа.

***— А вось цяпер, калі дзесяць гадоў прайшло, як Вы ацэньваеце, што з гэтага атрымалася?***



— Цяпер Беларусь фактычна груба парушае Белавежскае пагадненне. Магу сказаць, па якіх пунктах. Па-першае, Белавежскім пагадненнем кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў абавязаліся выконваць агульна-прызнаныя нормы дэмакратыі і правоў чалавека. Гэтак запісана. Бо якія ж тут выконваюцца нормы, калі нават канстытуцыю ў нас няма як выправіць у дэмакратычную, бо яна ў сваёй аснове антыдэмакратычная... ...

***— Гэта так. Але Расія захавала сваю імперскую сутнасць, яна не адмаўляе, што была б вельмі задаволеная, каб Беларусь увайшла ў сферы яе палітыкі, поўнасцю залежныя ад Расіі. Пацяху ідзе такая эскалацыя ўплыву, што Беларусь, калі так і далей будзе працягвацца, можа ўжо нават і не пры Лукашэнку, ці Лукашэнка будзе проста адсунуты ў бок, – паглынуць. Ці можа быць гэткае аб'яднанне назад?***

— Расія працягвае імперскую каланіяльную палітыку. І незаконнае надзяленне Лукашэнкі ўладай здзейснілі, вы добра ведаеце, тры першыя асобы ў Расіі. Хопіць пальцаў адной рукі, каб пералічыць вядомых расійскіх палітыкаў — не імпершчыкаў, ці, прасцей кажучы, вялікадзяржаўных шавіністаў. А ўсе астатнія — спачатку імпершчыкі. Але пасля трагічных падзеяў 11 верасня ў мяне такое ўражанне, што Пуцін пачынае не толькі дэкляраваць пазіцыі дэмакратыі ў міжнародных адносінах, але і прытрымлівацца іх. І пачынае падтрымліваць заходнія ініцыятывы, ініцыятывы Злучаных Штатаў...

***— Вы хочаце сказаць, што ён перастаў быць вялікадзяржаўнікам?***

— Не. У Расіі палітык высокага рангу не можа не быць вялікадзяржаўнікам, бо яго інакш ястрабы знішчаць. І таму гэта праблематычна. Але ў такіх экстрэмальных абставінах, мне здаецца, ён спачатку не раскрываўся, а тут фактычна адназначыў сваю пазіцыю. Калі такі падыход возьме верх у Расіі, гэта будзе добра. Ну, а калі ён адступіць, будзе так, як і было. А цяпер, што да паглынання...

***— Паглынанне ці другое Белавежскае пагадненне? Бо там было некалькі, здаецца, шэсць пагадненняў?***

— Ведаеце, прыстойнае пагадненне захаваецца. А шэсць... можна штогод яшчэ шэсць напісаць. І біць там шклянкі і званіць у званы крамлёўскія. Гэта ідэалагічныя пагадненні – усе тыя, якія былі заключаныя між Беларуссю і Расіяй. А там было нармальнае пагадненне — палітычнае. І важкасць яго бачыце? Тут шэсць пагадненняў — і ўсе на сметнік. А тады адно было, усяго з чатырнаццаці пунктаў. Вось, жыве, мае вялікія перспектывы.

***— Вы лічыце, што гэтае першае пагадненне незваротнае?***

— Абсалютна. Ужо адно тое, што Украіна пайшла па шляху незалежнасці. Дый іншыя рэспублікі ўжо пасля Алма-Ацінскага пагаднення. Я б сказаў, гэта непазбежна. І з Беларуссю так будзе ўрэшце. Ад гэтага няма куды падзецца. Гэта тут можна казаць, што выбары выйграны з высокім працэнтам, але разумны чалавек ведае, што такога працэнту наогул не можа быць, калі чалавек доўга пры ўладзе. У прынцыпе яго не бывае. Значыць, гэта падман. І такога маштабу, што ні пра якае тут падабенства да дэмакратыі гаворкі быць не можа.

***— Наогул пра дэмакратыю мы пакуль не гаворым. Тут менавіта пра суверэнітэт і незалежнасць.***

— Белавежскае пагадненне ў плане суверэнітэту самае важнае, безумоўна гістарычнае. Расія ўпершыню за 200 гадоў пасля далучэння беларускай тэрыторыі прызнала незалежнасць Беларусі, а таксама і незалежнасць Украіны. Вось што такое для мяне і Краўчука было Белавежскае

пагадненне. А мы прызналі незалежнасць Расіі. Незалежнасць ад Савецкага Саюзу. Вось вам і сэнс гэтага пагаднення.

**Інтэрв'ю браў Павел АНТАНОВІЧ (Н.С.)**

# У Фронце без пераменаў

Генадзь БАРБАРЫЧ

*У Мінску ў Палацы культуры «Сукно» 15-16 снежня прайшоў 7-ы зьезд грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» і V зьезд Партыі БНФ. У яго рабоце прынялі ўдзел 370 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. У якасці запрошаных прысутнічалі прадстаўнікі розных партый і грамадскіх арганізацый краіны. З дакладам выступіў старшыня БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ Вінцук Вячорка.*

16 снежня на зьездзе грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" былі зацверджаны вынікі выбараў кіраўніцтва, што адбыліся напярэдадні. Старшынёй БНФ пераабраны Вінцук Вячорка, які набраў 246 галасоў. Ягоны апанент — Вячаслаў Сіўчык – атрымаў 81 голас.

Намеснікамі старшыні БНФ «Адраджэньне» на зьездзе абраныя: Юрый Хадыка, які будзе адказваць за знешнюю дзейнасць арганізацыі, Віктар Івашкевіч (правядзенне палітычных кампаній), Павел Севярынец (маладзёжная палітыка і правядзенне масавых мерапрыемстваў) і Галіна Сямдзянава (арганізацыйныя пытанні). Іх кандыдатуры прапанаваў Вінцук Вячорка. У склад Сойму грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" былі абраныя 55 чалавек. Сярод іх – апанент Вячоркі на выбарах старшыні Вячаслаў Сіўчык і каля дзесяці маладафронтаўцаў. Трое са складу ранейшага Сойму (Алесь Пікула, Аляксей Шыдлоўскі і Андрэй Пятроў) пасля галасавання напісалі заявы аб выхадзе з БНФ.

Чарговыя зьезды грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ прынялі шэраг заяваў. Адной з найважнейшых была заява партыйнага зьезду — «Абаронім незалежнасць Беларусі ў новых умовах». У ёй гаворыцца, што «пасля правядзення выбарчага фарсу 9 верасня 2001 году, на аснове якога Лукашэнка абвясціў сябе кіраўніком беларускай дзяржавы на наступныя 5 гадоў, абвастрылася пагроза незалежнасці нашай краіны». Для Лукашэнкі адзіны шлях разлічыцца за падтрымку, аказаную яму расійскімі палітычнымі коламі падчас выбараў, — «здача беларускага суверэнітэту». І таму цяпер «здача незалежнасці» выходзіць на практычны ўзровень, адзначаюць аўтары заявы. У якасці прыкладу прыводзяцца факты распрацоўкі ў Расіі і Беларусі праектаў законаў аб выбарах у саюзны парламент і Канстытуцыйнага акту. У заяве адзначаецца, што правядзенне выбараў у парламент Саюзнай дзяржавы і асабліва ўдзел у іх дэмакратычных сіл Беларусі нясе пагрозу міжнароднай легітымізацыі саюзнага ўтварэння, дагэтуль нікім не прызнанага. На думку аўтараў дакумента, гэта не прынясе ніякай дэмакратызацыі беларускаму ўнутрыпалітычнаму жыццю, а наадварот — антыдэмакратычная сістэма, атрымаўшы дадатковую легітымізацыю, толькі ўмацуецца. Таму, адзначаецца ў дакуменце, з'езд даручае кіраўніцтву Партыі БНФ пачаць кансультацыі з іншымі дэмакратычнымі палітычнымі і грамадскімі сіламі краіны дзеля выпрацоўкі ўзгодненай пазіцыі, накіраванай супраць стварэння саюзнага парламенту. Аўтары заявы заклікалі прадстаўнікоў беларускіх кіраўнічых структур, юрыстаў, эканамістаў, прадпрымальнікаў — усё грамадства ў цэлым не падтрымліваць нераўнапраўных і кабальных для Беларусі саюзных пагадненняў з

Расійскай Федэрацыяй. Аўтары заявы звярнуліся таксама і да расійскіх палітычных сілаў з прапановай задумацца пра адмоўныя наступствы «ўключэння лукашэнкаўскага рэжыму ў расійскае палітычнае поле». Яны заклікалі расійскіх палітыкаў выступіць разам супраць магчымых выбараў у саюзны парламент, якія толькі ўмацуюць «рэтраградныя левыя імперскія палітычныя сілы» Расіі. У дакуменце змяшчаецца і заклік да парламентаў усіх дэмакратычных краін свету, міжнародных арганізацый не прызнаваць выбараў і рэферэндумаў, якія абмяжоўваюць або ліквідуюць суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, не прызнаваць створаных па іх выніках структураў.

Зьезд партыі прыняў таксама заяву аб адзінстве дэмакратычных сіл, а зьезд грамадскага аб'яднання — заявы «Супраць рэжыму — за Беларусь!» і аб перасьледзе сябраў БНФ «Адраджэньне» — удзельнікаў выбарчай кампаніі.

Лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец лічыць, што актыўная пазіцыя маладых дэлегатаў на зьездах грамадскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ, якія прайшлі ў Мінску, у некаторай ступені паўплывала на іх рашэнні. «Мы стараліся зрабіць усё «па максімуме». Паставілі пытанне аб праграме БНФ і, нарэшце, зьезд згадзіўся, што неабходна правесці спецыяльны форум, на якім трэба абмеркаваць і прыняць новыя праграмы грамадскай арганізацыі БНФ



«Адраджэньне» і Партыі БНФ. Мы абавязкова павінны самавызначыцца са сваім месцам у новай палітычнай сітуацыі. Мы разлічваем, што менавіта наш праект будзе прыняты за аснову і стане ідэалогіяй БНФ», — сказаў Севярынец.

Да адмоўных вынікаў працы зьезда лідэр Маладога Фронту аднёс тое, што аднаму з аўтарытэтных членаў арганізацыі — Вячаславу Сіўчыку — «не знайшлося месца ў кіраўніцтве і не была прынята пазіцыя меншасці, што падтрымала Сіўчыка». «Я лічу, што ён адзін з лепшых фронтаўскіх менеджэраў, і хацеў бы бачыць яго на пасадзе як мінімум адказнага сакратара ўправы БНФ. Я ўсё ж спадзяюся, што Вячаслаў Сіўчык зможа дапамагаць і Маладому Фронту, і ў правядзенні акцый», — лічыць Севярынец.

На зьездзе, на думку Паўла Севярынца, праявіўся і некаторы антаганізм Маладога Фронту і часткі «старэйшых таварышаў». «Праблема «бацькоў і дзяцей» адносіцца да разраду вечных. Рызыкну сказаць, што тут адбіваюцца і розныя ідэалогіі. Маладыя сябры арганізацыі куды больш надаюць значэння духоўнай, хрысціянскай сутнасці нацыянальнага руху, што, натуральна, не падабаецца пакаленню, якое вырасла ў Савецкім Саюзе. Мы не хочам сказаць, што ўсе сябры БНФ ужо «састарэлі». Але лічым, што арганізацыі неабходна разнастайнае і грунтоўнае аднаўленне, і рана ці позна мы яго даможамся — і ў праграмных адносінах, і ў арганізацыйных, і ў палітычных.

# і...

# V зьезд КХП-БНФ

БелаПАН

16 снежня ў Мінску адбыўся V зьезд Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ і грамадскага аб'яднання. У зьездзе бралі ўдзел каля 150 дэлегатаў, госці з Польшчы. Быў зачытаны справаздачны даклад старшыні партыі Зянона Пазьняка.

Старшыня даў ацэнку сітуацыі ў Беларусі, прааналізаваў дзейнасць партыі. Зянон Пазьняк назваў «складанымі ўмовамі» інфармацыйную блакаду, якую нібыта праводзіць у адносінах да яго партыі шэраг сродкаў масавай інфармацыі, стварэнне "псеўдаапазіцыі", дзейнасць кіраўніка Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханса-Георга Віка, якая нібыта накіравана на легітымізацыю рэжыму Лукашэнкі і адбываецца ў рамках саюзу паміж Расіяй і Германіяй.

Галоўнай задачай партыі стане неабходнасць дамагацца справядлівых і свабодных выбараў прэзідэнта Беларусі пад міжнародным пратэктаратам.

Выканаўца абавязкаў старшыні КХП-БНФ Юрый Беленькі выступіў са справаздачным дакладам Сойму партыі.

У другой частцы зьезду прайшлі выбары кіраўніцтва. На пасаду старшыні партыі вылучылі адзінага кандыдата – Зянона Пазьняка. У выніку тайнага галасавання ён быў абраны аднагалосна – за яго аддалі галасы 144 дэлегаты. Пасля яго абрання пачалося вылучэнне намеснікаў старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі–БНФ.

# ПОЛЬШЧА ПА-РАНЕЙШАМУ НЕ ПРЫЗНАЕ ЛУКАШЭНКУ

*Намесьнік міністра замежных справаў Польшчы Стэфан Меллер заявіў у Сэйме, што Польшча ня зьменіць сваёй зьнешняй палітыкі адносна Беларусі, пакуль беларускія ўлады не пачнуць захоўваць агульнапрынятыя дэмакратычныя нормы. "Сёньня мы ня можам афіцыйна трактаваць Аляксандра Лукашэнку, як прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, які быў абраны дэмакратычных шляхам і згодна дзейсных у Эўропе нормам і стандартам", – сказаў у Сэйме намесьнік міністра замежных справаў Польшчы Стэфан Меллер. Меллер таксама заявіў, што палітыка Польшчы адносна Беларусі ня зьменіцца, пакуль не пачнуцца зьмены ў самой Беларусі.*

Так прадстаўнік міністэрстваў замежных справаў вымушаны быў адказваць на пытаньне дэпутата апазыцыйнай партыі "Правы й спарвядлівасьць" Міхала Камінскага, які абвінаваціў міністра замежных справаў Уладзі-межа Цімашэвіча ў парушэньні міжнароднага байкоту недэмакратычнага беларускага рэжыму.

Справа ў тым, што напачатку гэтага месяца, падчас саміту АБСЭ ў Бухарэсьце, кіраўнік польскай дыпляматыі сустрэўся са сваімі беларускімі калегамі.

Аднак, па словах намесьніка міністра, гэтая сустрэча, як і шэраг іншых, была нефармальнай. Тым больш, што пасьля сустрэчы Уладзімеж Цімашэвіч заявіў, што павага дэмакратычных стандартаў, апазыцыі, высьвятленьне лёсу зьніклых апазыцыйных палітыкаў – гэта асноўныя накірункі, па выкананьні якіх Беларусь здолее *"увайсьці ў эўрапейскія салёны"*...

# Закончаны пераклад "Новае Зямлі" на польскую мову...

«Шаноўны і дарагі Янка!

Хочацца мне сёньня падзяліцца з табою маёй вялікай радасцю: я закончыў працу над перакладам «Новай зямлі» Якуба Коласа, гэтай «песьні песьняў беларускага народа», гэтага сялянскага «Пана Тадэвуша»...

Скажу табе шчырую праўду: я ніколі не ўзяўся б за гэты гуж, калі б ты мяне дзесяць год таму не заахвоціў, а дакладней — не справакаваў. Гэта ж ты зьвярнуў маю ўвагу на тое, што «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча двойчы ўжо перакладзены й выданы на беларускай мове, а мы тады ведалі і пра існаваньне трэцяга перакладу, зробленага Пятром Бітэлем у савецкім лагеры.

— А за «Новую зямлю» ніхто з палякаў не ўзяўся, — пачуў я ад цябе не без прыкрасьці за сваіх суайчыньнікаў. Аб сабе я нават не падумаў. Гэта за мяне зрабіў ты:

— Паспрабуй!..

Ну вось я й паспрабаваў. Рушыў я Коласаўскім шляхам за Міхалам Міцкевічам у пошуках новай зямлі, але ўжо па-польску. Шмат разоў губляў я сьлед, колькі раз упіраўся гужом у гушчу перашкодаў: і лексікальных, і вершаскладальных, і чыста бытавых. Колькі раз здавалася мне, што не дацягну, гуж кіну, пяро паламаю. І кожны раз падтрымкай мне было тое тваё «паспрабуй». І твой станоўчы ўхвальны водгук на першыя песьні паэмы ў маім перакладзе. Заахвочвалі таксама й дабразычлівыя водгукі чытачоў у Польшчы пасьля публікацыі аддзельных песьняў ці то ў варшаўскай Lithuanii, ці ў беластоцкім Czasopisie, ці ў віленскім двухтыднёвіку Znad Wilii, таксама й слухачоў Польскага радыё, дзе я апошнія два гады чытаў у эфір усё перакладзенае мною з паэмы.

За духоўную падтрымку я ўдзячны і Беларускаму ПЭН-цэнтру, і Музею Якуба Коласа, І Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, і Беларускаму фонду культуры, які ўзяўся за падрыхтаваньне трохмоўнага выданьня «Новай зямлі», у тым ліку і ў маім перакладзе на польскую мову.

У рэшце рэшт, на фінішы падтрымкай мне была і грашовая дапамога з боку амэрыканскага беларуса Міколы Прускага пры пасрэдніцтве польскага беларуса Сакрата Яновіча.

Але, дарагі мой Янка, усяго гэтага не было б і ў паміне, калі б не той твой першапачатковы дабрадзейны і пладавіты імпульс, недзе у Коласаўскай Мікалаеўшчыне, з якога ўсё гэта і пачалося...

**Часлаў Сенюх**

# Устанавілі помнік Міколу Ермаловічу

МАЛАДЗЕЧНА. 1 снежня сваякі і сябры сабраліся ля магілы Міколы Ермаловіча з нагоды ўстаноўкі там помніка. Асноўны клопат за выраб і ўстаноўку ўзяў на сябе даволі далёкі сваяк жонкі гісторыка – Мікалай Шчытнікаў з Вілейкі. Замест эпітафіі толькі тры словы: "Ён любіў Беларусь...", а як шмат за гэтым стаіць. Пасля наведвання магілак усе паглядзелі відэазапіс спектакля "Рагнеда", пастаўлены Валянцінам Ермаловічам – рэжысёрам народнага тэатра "Валянцін", які ён прысвяціў свайму брату.

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*



# РЭПРЭСІІ ВЯРНУЛІСЯ Ў КУРАПАТЫ

Узровень цывілізацыі народу ў велізарнай ступені вызначаецца яго памяцьцю аб людзях, што адыйшлі на той сьвет. Значэньне гэтага фактару яшчэ больш узрастае, калі размова ідзе пра тых, хто заўчасна разьвітаўся з зямным жыцьцём, змагаючыся за інтарэсы сваёй Бацькаўшчыны. Што датычыць загінутых у барацьбе ў гады Другой сусьветнай вайны, тут у нас наведзены пэўны парадак, хоць і не ў такой меры, як заслугоўваюць гэтыя людзі. А вось ахвяры масавых рэпрэсіяў, што чыніліся з дазволу і па ініцыятыве Камуністычнай партыі дзеля забесьпячэньня свайго непадзельнага панаваньня ў краіне, застаюцца па-за ўвагай і дзяржаўных уладароў і ў значнай ступені — самаго грамадзтва. Такую абыякавасьць і раўнадушша нельга нічым апраўдаць і асабліва, калі ўлічыць, што за мізэрным выключэньнем, ахвяры масавых бальшавіцкіх рэпрэсіяў на Беларусі — гэта людзі моцна ўлюбёныя ў свой край, выдатныя палітыкі і таленавітыя пісьменнікі, вучоныя, педагогі, кіраўнікі вытворчасьці, найлепшыя прадстаўнікі сялян і рабочых. Іх сьмерць на многія гады адкінула назад наш край у яго сацыяльна-эканамічным і духоўным разьвіцьці.

Сёньня ўжо ўсім вядома, што месцам самага масавага пахаваньня ахвяр бальшавіцкага рэжыму зьяўляецца сумнавядомае ўрочышча пад Менскам Курапаты. Страшэнныя зьвесткі пра тое, што тут чвэрылі работнікі НКУСа БССР, дайшлі да нас больш за дзесяць гадоў таму назад. І ўскалыхнулі ня толькі простых люд, але і сягота ў партыйных і савецкіх структурах улады, органах пракуратуры і суда. 18 студзеня 1989 г. Савет Міністраў БССР прымае пастанову “Аб увекавечаньні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937-1941 гадоў у лясным масіве Курапаты”. Урад рэспублікі ўхваліў прапановы Ўрадавай камісіі аб увекавечаньні памяці ахвяр масавых рэпрэсіяў і збудаваньні помніка, абавязаў Міністэрства культуры БССР, Дзяржбуд БССР, Менскі гарвыканкам сумесна з Саюзам архітэктараў БССР, Саюзам мастакоў БССР і Беларускім рэспубліканскім аддзелам Савецкага фонду культуры правесьці адкрыты конкурс на праект помніка і добраўпарадкаваньне ляснога масіву ў Курапатах. Гаварылася і пра выдзяленьне з дзяржаўнага бюджэту неабходных для гэтага фінансавых сродкаў. Словам, урад рэспублікі прыняў крайне важную пастанову. Яна цалкам адпавядала духу чарговай хвалі беларускага нацыянальнага Адраджэньня, якое прыйшло ў рух у канцы 80-х гадоў. Грамадзтва зразумела: калі яно паставіла перад сабою высокародную мэту нацыянальнага Адраджэньня, патрэбна ўваскрэсіць у памяці людзей імёны тых, хто склаў галовы ў змаганьні за яе. Такіх у Курапатах — легіён. Абсалютная большасьць з іх — гэта людзі, якім была вельмі блізкай і дарагой беларуская нацыянальная ідэя. За яе і было заплачана жыцьцём, прычым пераважна маладым.

Паведамленьне пра зьверствы нкусаўцаў у Курапатах выклікалі зусім іншую рэакцыю ў тых, хто на змагароў за беларускую нацыянальную ідэю глядзеў, як на “ворагаў сацыялізму”. Расстрэлы іх у Курапатах падаваліся ў шэрагу афіцыйных газэт, як зусім справядлівая мера пакараньня. Такой думкі прытрымлівалася і нямала асобаў, што працавалі ў высокіх уладных структурах. У іх хапіла паўнамоцтваў, а галоўнае — жаданьня, каб затармазіць ход выкананьня пастановы Савету Міністраў БССР “Аб увекавечаньні памяці ахвяр масавых рэпрэсіяў 1937-1941 гадоў у лясным масіве Курапаты”. Пэўную абыякавасьць да выкананьня яе праявілі і органы ўлады, што былі створаны пасьля абвяшчэньня Беларусьсю сваёй дзяржаўнай незалежнасьці. Не паказала сябе сапраўднай прыхільніцай, змагаркай за стварэньне помніка ахвярам масавых рэпрэсіяў 1937-1941 гадоў у Курапатах спэцыяльна заснаванае журы, старшынёй якога быў прызначаны рэктар Менскага тэатральна-мастацкага інстытуту Васіль Шаранговіч. Пачало сваю дзейнасьць актыўна, але затым завaліла яе. І як вынік, сёньня на гэтым сьвятым для кожнага нацыянальна сьвядомага беларуса месцы пастаўлена некалькі крыжоў, шчытоў з надпісамі, мэмарыяльная пліта, прывезены камень.

З такім раўнадушшам дзяржавы да памяці аб сваіх найлепшых сынах і дочках ніяк не маглі і ня могуць мірыцца людзі, у душах якіх яшчэ жыве сьвятая беларускасьць. Страшэнна абмежаваныя фінансавымі сродкамі, яны ня могуць штосьці сур’ёзнае зрабіць, каб пераўтварыць забытыя ўладай Курапаты ў сапраўдны пантэон помнікаў — герояў беларускага нацыянальнага Адраджэньня. Неставала сродкаў нават на тое, каб устанавіць хоць адзін прыстойны помнік на месцы масавых расстрэлаў ахвяр сталінскага таталітарнага рэжыму.

Першым знайшоў толькі аднаму яму даступныя крыніцы атрыманьня такіх сродкаў небязвядомы ў асяродзьдзі беларускіх нацыянальных адраджэнцаў А. Белы. Ня лішнім будзе нагадаць, што дзякуючы яго ініцыятыве і намаганьням устаноўлены без выдаткаваньня з дзяржаўнага бюджэту нават аднаго беларускага “зайчыка” помнікі Адаму Міцкевічу ў Халопенічах, Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі, Кірылу Тураўскаму для Духоўнай Акадэміі імя Кірылы Тураўскага, Францішку Скарыну і Міколу Гусоўскаму на тэрыторыі Белдзяржуніверсытэту. У канцы лютага 1999-га года пэрыядычны друк прынёс новую прыемную навіну: па ініцыятыве ўсё таго-ж самага А. Белага створаны грамадзкі камітэт па ўзьвядзеньні ў Курапатах першага помніка “Пакутнікам Беларусі” у форме Крыжа Еўфрасіньні Полацкай. У камітэце пажадалі працаваць такія аўтарытэтныя ў краіне грамадзкія арганізацыі, як “Мартыралог Беларусі”, Хрысьціянская злучнасьць “Курапаты”, Міжнародны дабрачынны фонд Крыжа Еўфрасіньні Полацкай, менскі клюб “Спадчына”, а таксама шэраг вядомых у нас гісторыкаў, літаратараў, грамадзкіх і рэлігійных дзеячоў. Здавалася-б, усім нам, не раўнадушным да беларускай справы, заставалася толькі вітаць гэтае высокароднае пачынаньне людзей па ўшанаваньні памяці пакутнікаў Беларусі, што спачываюць у Курапатах. Ажно не. Як гэта часта здараецца з намі, беларусамі, у камітэта тут-жа знайшліся апаненты. Не прапаноўваючы са свайго боку нічога канструктыўнага і вартага ўвагі, яны пачалі разносіць ушчэнт намеры камітэту, выказваць сумненьні адносна таго, ці будуць выкарыстаны па прамым прызначэньні сродкі, што паступяць у яго распараджэньне ад ахвярадаўцаў. Сумнявацца ў гэтым нельга забараніць нікому. Але нельга ня ўлічваць і таго фактару, што пры ўдзеле клюбу “Спадчына” і яго кіраўніка А. Белага ўжо ня раз зьбіраліся ад насельніцтва сродкі на ўзьвядзеньне помнікаў і ня было допушчанага аніводнага выпадку якоганебудзь незаконнага іх выкарыстаньня. Калі-ж і гэта не здымае падазрэньняў, тады можна ўстанавіць больш жорсткі кантроль грамадзкасьці за ходам паступленьня і выкарыстаньня грашовых ахвяраваньняў А. Белым. Ніякія падазрэньні наконт гэтага не павінны былі быць прычынай спыненьня працы камітэту па ўзьвядзеньні ў Курапатах помніка “Пакутнікам Беларусі”.

Ні ў якім выпадку нельга было выступаць супраць практычных дзеяньняў камітэту і са спасылкамі на тое, што ім для стварэньня помніка прыцягваліся скульптары нібыта недастаткова высокай прафэсійнай кваліфікацыі. Такое сьцьвярджэньне не адпавядала рэчаіснасьці.

Зусім верагодна, што пры іншым складзе скульптараў і архітэктараў, якія адгукнуліся на ініцыятыву камітэта, можна было-б ствараць у Курапатах і лепшы помнік “Пакутнікам Беларусі”. Калі такое жаданьне ў іх зьявіцца, яны не застануцца без працы. Помнік, пра які тут вядзецца размова, належыць разглядаць толькі як першы крок у комплексе ўсіх мерапрыемстваў па стварэньні мэмарыяльнага ансамблю ў Курапатах. Тут шмат спачывае людзей самых розных сацыяльных катэгорыяў і нацыянальнасьцяў. Таму, ці-ж не лягічна было-б, акрамя агульнага помніка “Пакутнікам Беларусі” у форме Крыжа Еўфрасіньні Полацкай, паасобна ўстанавіць і нейкія мэмарыяльныя знакі ў памяць аб пахаваных тут пісьменьніках, вучоных, журналістах, дзяржаўных і ваенных дзеячах і г.д.? Думаецца, пажадаюць паставіць помнікі ў Курапатах сваім пакутнікам габрэйская, польская, татарская і іншыя этнічныя супольнасьці Беларусі.

Пры наяўнасьці фінансавых сродкаў і жаданьні тых ці іншых арганізацыяў, прыватных асобаў можна належным чынам аформіць сімвалічную магілу любой ахвяры масавых рэпрэсіяў, пра якую нам дакладна вядома, што менавіта ў Курапатах яе напаткала пакутніцкая сьмерць. Абавязак нас усіх незалежна ад таго, на якім баку знаходзіліся нашыя продкі падчас шалёнай расправы савецкіх карніцкіх органаў з красою беларускай нацыі, прыняць пасільны ўдзел у тым, каб пераўтварыць дзікае, зарослае хмызьняком і бур’яном месца пахаваньня людзей у Курапатах у сапраўдныя мэмарыяльныя могілкі тыпу такіх, якія існуюць у многіх гарадах Эўропы.

Да развязаньня праблемы мэмарыялізацыі ляснога масіву Курапаты дзяржава і грамадзкасьць павінны паставіцца з такой-жа сур’ёзнасьцю, як да ўвекавечваньня памяці тых, хто загінуў у Трасцянцы. Ня будзем забываць, што ў Трасьцянцы нішчылі людзей ворагі-чужынцы, ад якіх заўсёды можна чакаць любога злачынства, а ў Курапатах — такія-ж самыя людзі, як і іх ахвяры, толькі ў форме чэкістаў, з пяцікутнай чырвонай зоркай на шапцы. Загінуць ад рук катаў сваёй гадоўлі на некалькі парадкаў больш вялікая і жахлівая трагедыя, чым ад рук прышэльцаў. Да таго-ж ля месца пахаваньня ахвяр нямецкай акупацыі мы стала ўскладаем вянкі, арганізуем экскурсіі, праводзім жалобныя мітынгі, а пра тыя мясьціны, дзе чынілі зьдзекі з невінаватых людзей нкэвудысты, маўчалі цэлае паўстагодзьдзе. Трэба сплаціць нашыя даўгі перад памяцьцю тых, чые косьці парахнеюць у гэтых месцах.

Па сваёй наіўнасьці доўгі час лічыў, што ў цяперашнім змаганьні за нацыянальнае Адраджэньне ў нас ня будзе чалавечых ахвяраў, заўчасных сьмерцяў. Аднак гледзячы на жорсткія разгоны дэманстрацыяў адраджэнскага характару, зразумеў, што ўсё гэта далёка ня так. У мірны, безахвярны зыход барацьбы за беларускую нацыянальную ідэю перастаў верыць яшчэ і таму, што ўбачыў колькі шчырым змагарам за яе давялося апошнім часам пасядзець у месцах зьняволеньня, перанесьці іншыя віды выпрабаваньняў. Відаць, гісторыя нічому нас не навучыла. Калі Дзяржава карэнным чынам не зьменіць сваіх дачыненьняў да нацыянальнага Адраджэньня, калі пагроза этнічнага выміраньня беларусаў стане яшчэ больш небясьпечнай і рэальнай, барацьба за наша выратаваньне ўзмацніцца, што непазьбежна будзе весьці да павелічэньня колькасьці чалавечых ахвяр. Афіцыйныя ўлады не дадуць хаваць такіх шчыра апантаваных нацыянальным духам людзей у прыстойных месцах на могілках. Дык ці не варта было-б месцам пахаваньня і сёняшніх актывістаў нацыянальнага Адраджэньня зрабіць Курапаты? Пры патрэбе і плошчу іх можна пашырыць.

Падумалася яшчэ і такое. Нейкай нябачнай сілай нам наканавана ўжо колькі стагодзьдзяў весьці няспынную, самаахвярную барацьбу за этнічнае, нацыянальнае выжываньне, каб толькі не пераўтварыцца ў бесструктурную масу, ня стаць палякамі ці рускімі. Гэта барацьба набыла асаблівы размах падчас выступленьня Тадэвуша Касьцюшкі, паўстаньняў 1830-1831 і 1863-1864 гадоў, у гады кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. У час гэтых суровых выпрабаваньняў беларускі народ траціў лепшых сваіх сыноў і дочак. Хтосьці з іх знайшоў сабе вечны спачын на роднай зямлі, а хтосьці — у чужых і далёкіх краінах. Велізарны, самаахвярны ўклад гэтых людзей у беларускую справу абавязвае нашчадкаў сур’ёзна падумаць пра ўшанаваньне памяці ўсіх тых герояў Бацькаўшчыны, што параскіданыя на чужыне. Іх трэба сымвалічна сабраць у адным месцы. І больш адпаведнага гэтай мэце куточка, як лясны масіў Курапаты, нам не знайсьці. На яго тэрыторыі разумна было-б збудаваць па велічным помніку для тых, хто змагаўся за нацыянальныя беларускія ідэалы пад сьцягамі Т. Касьцюшкі, хто знаходзіўся ў шэрагах паўстанцаў 1830-1831 гадоў, хто быў паплечнікам К. Каліноўскага, хто бараніў тэрыторыю, непадзельнасьць роднай Айчыны, стаяў за яе дзяржаўную незалежнасьць у гады кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, хто з-за пагрозы бальшавіцкай расправы шукаў сабе выратаваньня ў эміграцыі.

Па розных прычынах ня для ўсіх выдатных сучасных адраджэнцаў месцам пахаваньня стануць Курапаты. Але імёны іх тут павінны прысутнічаць, дзеля чаго можна выкарыстоўваць спэцыяльна ўстаноўленыя мэмарыяльныя пліты, як гэта практыкуецца ў многіх краінах. Ужо сёньня можна было-б на такой пліце высечы залатымі літарамі прозьвішчы вучонага-гісторыка Міхася Ткачова, уніяцкага сьвятара Яна Матусевіча, зьбіральніка татарскай абшчыны Якуба Якубоўскага, які, дбаючы пра свой народ, шмат карыснага рабіў і для беларускай справы, а таксама шэрагу іншых слынных сыноў Бацькаўшчыны.

Тэрыторыя ляснога масіву Курапаты павінна мець прыгожую агароджу з велічнай Брамай неўміручасьці беларускай нацыянальнай ідэі. Толькі выкананьнем шырокага комплексу архітэктурна-будаўнічых работ нам удасца з цягам часу пераўтварыць цяперашнія непрыглядныя для вока Курапаты ў сапраўды мэмарыяльны пантэон выдатных дзеячоў беларускага нацыянальна-культурнага Адрад-

жэньня, якія не шкадавалі жыцьця дзеля гэтай сьвятой высакароднай справы. Такое ўшанаваньне памяці найлепшых людзей беларускага народу не пакіне аніякіх сумненьняў у сёньняшніх змагароў за нацыянальную ідэю, што і пра іх не забудуцца ўдзячныя нашчадкі. Новае стагодзьдзе не абяцае аніякага палягчэньня ў барацьбе за этнакультурнае выжываньне беларускага народу. Пакуль што дзяржава не зьбіраецца нават мезенцам крануць, каб заняцца стварэньнем нацыянальнай сыстэмы адукацыі, даць належную прастору беларускай прафэсійнай культуры ў яе нацыянальна-моўным выяўленьні, зрабіць не на словах, а на справе мову дзяржаўнай, забясьпечыць ёй пануючае месца ў сродках масавай інфармацыі. Наадварот, ва ўсіх гэтых сфэрах пры самым актыўным удзеле дзяржавы адбываецца мэтанакіраванае аслабленьне ролі беларускага нацыянальнага фактару. Адсюль вынік: справу нацыянальнага Адраджэньня трэба разьвязваць толькі намаганьнямі адных яго прыхільнікаў, ніколькі не разьлічваючы на падтрымку з боку афіцыйных уладаў, бо ў іх зусім процілеглае стаўленьне да беларускага пытаньня. Згуртаваньню, прымнажэньню сучасных адраджэнскіх сілаў вельмі добра можна паспрыяць правядзеньне старанна распрацаваных мерапрыемстваў па мэмарыяльным афармленьні Курапатаў як галоўнага месца пахаваньня шчырых змагароў за беларускую нацыянальную ідэю. З Курапатаў-трагэдыі трэба з дапамогаю архітэктараў, скульптараў, жывапісцаў зрабіць Курапаты-крыніцу нашай нястомнай барацьбы за забесьпячэньне беларускаму народу прыстойнага нацыянальнага жыцьця. Як крыж, на якім расьпялі Ісуса Хрыста, стаўся для людзей хрысьціянскай веры найвялікшай сьвятыняй, гэтак Курапаты, пасьля таго як тут папрацуюць таленавітыя майстры, з энкавэдысцкага стрэльбішча пераўтворыцца ў сьвятыню для ўсіх сьвядомых беларусаў.

Нічога не хацеў-бы, каб сьледам за створаным па ініцыятыве А. Белага грамадзкім камітэтам па ўзьвядзеньню ў Курапатах помніка "Пакутнікам Беларусі" ў форме Крыжа Еўфрасіньні Полацкай узьніклі і іншыя такога роду камітэты ды яшчэ з большым размахам работ па пераўтварэньні гэтага багата палітага крывёю куточка беларускай зямлі ў Пантэон яе нацыянальных герояў. У час нечувана вялікай пагрозы канчатковай культурна-моўнай русыфікацыі беларусаў нам як ніколі раней патрэбны не беспадстаўныя абвінавачваньні адзін аднаго, а згода і ўзаемапашана. Толькі цеснае згуртаваньне вакол нацыянальнае ідэі выратуе нас ад этнічнага вымiраньня. А сёньня-ж з-за нашай нацыянальнай разьяднанасьці бесперашкодна, поўным ходам ідзе будаўніцтва Менскай кальцовай дарогі зусім побач з Курапатамі, чым парушаны вечны супакой ахвяраў савецкай таталітарнай сыстэмы. Супрацьстаяць такому будаўніцтву, якое іншым словам нельга назваць, як вандалісцкімі дзеяньнямі, не ўдалося адносна нешматлікім колам шчыра адданых беларускай нацыянальнай ідэі людзей. Часова бітва прайграна. Амаль усім актыўным змаганцам за недатыкальнасьць Курапатаў вынесены адміністрацыйныя пакараньні. Як пазьней будуць караць за такія дзеяньні, сказаць цяжка, але, бясспрэчна, больш сурова.

Варожае стаўленьне сучаснага палітычнага рэжыму Рэспублікі Беларусь і значнай часткі вернага яму грамадзтва да Курапацкага магільніка тлумачыцца рашучым непрыняцьцем імі таго сьвятога нацыянальнага ідэалу, за абарону якога савецкая фэміда зьнесла галовы самым слынным сынам і дочкам беларускага народу.

Курапаты для беларусаў — гэта ня толькі Пантэон іх нацыянальных патрыётаў. Гэта і самае адмысловае зьвяно ў ланцугу самаахвярнага змаганьня многіх пакаленьняў за дзяржаўную незалежнасьць і захаваньне культурна-моўнай адметнасьці беларусаў, якое, на вялікую бяду, беспасьпяхова вядзецца ад паўстаньня 1794 году пад правадырствам Т. Касьцюшкі і да нашых дзён. Мы і сёньня ня выйшлі на тыя запаветныя рубяжы, якіх імкнуліся дасягнуць сто і больш гадоў таму назад патрыёты Бацькаўшчыны. Іх шляхі гераічнага змаганьня шчодра палітыя крывёю. І найбольш яе гвалтам выпушчана з беларускага нацыянальнага арганізму ў Курапатах, якія па гэтай прычыне зусім заслужана сталі помнікам нашай барацьбы за палітычнае разьнявольваньне. Ва ўсіх краінах сьвету не знойдзецца падобнага месца, дзе-б у такой высокай канцэнтрацыі, проста ўпрытык спачывала вечным сном такое мноства сапраўдных прадстаўнікоў нацыянальнай эліты. Таму ахвяраваць іх спакоем дзеля нейкіх сумніўных плянаў удасканальваньня транспартных зносін вакол Менску — гэта найвялікшае злачынства.

Сёньня ўвесь далейшы лёс Курапатаў залежыць толькі ад практычных дзеяньняў нацыянальна-




сьвядомай часткі беларускага грамадзтва, здольнасьці супрацьстаяць усім спробам дзяржавы і адданай ёй інтэлігенцыі пазбавіць людзей памяці пра залаты этнічны асяродак беларускай нацыі. Не выключана, што давядзецца зьвярнуцца і да адпаведных міжнародных арганізацыяў з просьбай пасадзейнічаць прагрэсіўным сілам Беларусі наблізіць Курапаты да статусу такіх сумнавядомых месцаў масавага забойства людзей, як Асьвенцім ці Майданэк. І ўсё-ж, яшчэ раз паўтаруся, асноўную нагрузку па пераўтварэньні Курапатаў у сапраўдны мэмарыяльны комплекс павінны ўзяць на сябе нацыянальна-сьвядомыя колы беларускага народу.

Зараз ужо мала хто сумняваецца, што вялізарныя страты этнічнага ядра беларускай нацыі падчас масавых сталінскіх рэпрэсіяў 30-х гадоў паставілі пад сур'ёзнае пытаньне само яе далейшае існаваньне. Гэта абавязвае ўсіх, хто адданы сьвятым ідэалам Бацькаўшчыны, не забывацца на яе магутных волатаў. Нам трэба вызначыць дзень памяці іх і штогод праводзіць яго. Такім днём лягічней за ўсё назваць 29-га кастрычніка, у які ў 1937-м годзе ў Менску савецкія спецслужбы расстралялі 15 беларускіх пісьменьнікаў. Многім дзяржавам і ста гадоў неставала, каб гвалтоўна пасладь на той сьвет такую колькасьць прадстаўнікоў пісьменьніцкай інтэлігенцыі. Устаноўлены ў той дзень цалкам залежнай ад Масквы Беларусьсю рэкорд расправы над майстрамі мастацкага слова не пабіты яшчэ і па сёньня і наўрад ці калі-небудзь здарыцца такое. Дзеля правядзеньня 29-га кастрычніка Дня памяці беларускіх нацыянальных патрыётаў няма лепшага месца за Курапаты. Неабходна тэрмінова брацца за пераўтварэньне іх у адмысловы мэмарыяльны комплекс, ведаючы, што калі ў беларускім грамадзтве зьявіцца крытычная маса нацыянальна-самасьвядомых людзей, тады ўчастак Менскай кальцовай аўтамагістралі, які сёньня праклaдаецца ледзь не па месцах пахаваньня нябожчыкаў, стане звычайнай дарожкай для пешаходаў, што масамі будуць наведваць самае памятнае для беларусаў месца — Курапаты.

*********************************************

# АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА: "ЭСКАДРОН СЬМЕРЦІ" – ГЭТА РЭАЛЬНАСЬЦЬ

"Сегодня"

*Беларуская апазыцыя пасьля перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнкі, падобна, здавацца не зьбіраецца. На днях на Ўкраіну зь неафіцыйным візытам прыбыў віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету Беларусі, галава апазыцыйнай Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Карэспандэнту "Сегодня" ён даў эксклюзіўнае інтэрвію, якое мы прапануем да ўвагі нашых чытачоў*

**--Вынікі міжнародных назіральнікаў былі аднaзначнымі: вынікі прэзыдэнцкай кампаніі ў Беларусі былі сфальсыфікаваныя. Наколькі сур'ёзныя парушэньні, якія вы асабіста назіралі?**

--Лукашэнка пачаў сваю прадвыбарчую агітацыю ў невызначаныя законам тэрміны – за два гады(!) да дня галасаваньня, калі заўчасна памёр адзін з самых канкурэнтаў "бацькі", член АГП Генадзь Карпенка. Пасьля гэтага зьніклі два патэнцыйныя кандыдаты ад нашай партыі – былы міністар унутраных справаў генэрал Захаранка й першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету рэспублікі Віктар Ганчар. Ужо падчас выбарчай кампаніі па справе зьявіліся копіі справаздач выдачы расстрэльнага пісталету з пацьверджаньнем сьведкаў – супрацоўнікаў праваахоўчых органаў…

Нядаўна Лукашэнка засім адкрыта заявіў, што да яго прыходзіла некалькі тысячаў "воров в законе". Яны далі яму справаздачу і сказалі, што прагаласавалі за яго. Гэта адбылося пасьля таго, як Лукашэнка аддаў загад зьліквідаваць некалькі крымінальных аўтарытэтаў у прыватнасьці. Шчаўліка…

Зараз таксама йдзе судовы працэс па справе зьнікненьня журналіста ОРТ Зьмітра Завадзкага. Па гэтай справе праходзіць шэраг афіцэраў службы бясьпекі прэзыдэнта. Але гэта, на нашу думку, проста пошук уладамі стрэлачнікаў, а не людзей, якія аддавалі загад выкрасьці карэспандэнта…

**--Наколькі адпавядае рэчаіснасьці інфармацыя аб існаваньні так званага "эскадрону сьмерці", які нібыта займаецца выкраданьнем і забойствам няўгодных Лукашэнку людзей? Напрыклад, распавядаюць, што некаторых апазыцыянэраў "эскадроншчыкі" у прамым сэнсе закаталі ў асфальт, і гэтыя месцы ў Менску людзі спрабуюць абыйсьці бокам...**

--"Эскадрон сьмерці" – гэта рэчаіснасьць. На жаль, тыя 60 старонак дакумэнтаў, якія былі прадстаўленыя, не даюць падставаў сумнявацца ў фізычнай ліквідацыі нашых калег. Праўда, мы пра гэта імкнемся дома публічна не казаць, каб пашкадаваць нэрвы іхніх сваякоў..

**--На Ўкраіне, дарэчы, ёсьць палітыкі, якія дастаткова адкрыта падтрымліваюць Лукашэнку і сьцьвярджаюць, што беларусы жывуць лепш...**

--У Лукашэнкі стратэгічны сазьнік на Ўкраіне – гэта камуністы й спн.Вітрэнка. Пятро Сіманенка дастаткова часта "сьвяціўся" на нашай тэлевізіі падчас прэзыдэнцкай кампаніі. Ён двойчы прыяжджаў у Беларусь. Таксама сьвядома запрашалі Зюгнава, Жырыноўскага. Гэтых людзей можна далучыць да "піар"-каманды па падтрымцы Лукашэнкі. Мне падаецца, калі Сіманенка і Вітрэнка атрымаюць на будучых парлямэнцкіх выбарах посьпех, у пэрспэктыве гэта прывядзе вас толькі да эканамічнай і палітычнай крызы. Па сваім цяперашнім разьвіцьці Ўкраіна ўжо гадоў на 7-8 апярэджвае Беларусь па ўсіх паказчыках. Тое, што ў нас добра жывецца – гэта чарговы міф, створаны рэжымам Лукашэнкі.

**--Але народ яго падтрымлівае!..**

--Таму што дабрабыт 80% насельніцтва залежыць толькі ад Лукашэнкі. Ён адзін вырашае, каму й калі выплочваць заробкі й пэнсіі..

**--Нягледзячы на рэжым, як вы кажаце, у Менску ўсё ж такі існуе й апазыцыя. Вы, напрыклад, маеце магчымасьць прыяжджаць сюды, кантактаваць з журналістамі...**

--У нас – "аксамітная" дыктатура. Вядома, у Беларусі ніколі ня будзе канцлягероў, але мы маем палітвязьняў. Любога чалавека, асабліва кіраўніка якога-небудзь прадпрыемства, можна за адзін дзень пасадзіць на лаву падсудных. Лукашэнка пэрыядычна праводзіць такія "піар"-акцыі: "узорна-паказальныя" пасадкі ў турму. Вось нядаўна публічна было заяўлена, што пракуратура мае намер узбудзіць 700 крымінальных справаў. Аказваецца, Лукашэнку ня вельмі спадабалася, як паводзіла сябе намэнклятура падчас выбарчай кампаніі.

**--А што ў Беларусі няма ссваіх алігархаў, якія маглі нейкім чынам паўплываць на некаторыя рашэньні прэзыдэнта?**

-У нас, у адрозьненьні ад Украіны, алігарх адзін— Лукашэнка. Ён сёньня ў Беларусі самы багаты й забяспечаны чалавек. Калі нават крымінальныя групоўкі маюць свае законы, то ў Лукашэнкі іх проста няма...

**--Вядома, што Беларусь уваходзіць у дзесятку краінаў-экспартэраў зброі. Хто ў вас кантралюе гэты працэс?**

--Часта зброя прадаецца нелегальна. Мы маем усе падставы меркаваць, што і частка продажу расейскага ўзбраеньня незаконна адбывалася праз нашу краіну. Лукашэнка актыўна падтрымлівае кантакты з адыёзнымі палітычнымі рэжымамі. 11 верасьня адбылася трагедыя ў Амэрыцы, а 12 чысла ў Менск прыехаў прадстаўнік вышэйшай ваеннай рады Лівіі. У гэтай сфэры існуе "супрацоўніцтва" і з Іранам, з Іракам. Рынак ўзбраеньня ў дзяржаве кантралюе выключна Лукашэнка. Нядаўна міністар фінансаў адкрыта прызнаўся дэпутатам, што Беларусь прадае зброю. Але грошай гэтых у даходнай частцы бюджэту няма!.. Вядома, што ў нас існуе два бюджэты: адзін той, які разглядае Вярхоўны Савет, другі—пэрсанальныя рахункі Лукашэнкі, куды і пераліч.ваюцца сродкі па продажы зброі. Дарэчы, за гэтыя грошы Лукашэнка ва ўсіх вялікіх гарадах краіны пабудаваў лядовыя стадыёны. Вельмі любіць катацца на каньках..

**--Зараз у Беларусі актыўна абмяркоўваюць тэму "пасьпяховай ваенай кар'еры" сына Лукашэнкі...**

--Ягоны сын скончыў факультэт міжнародных зносінаў. У войску не служыў. Але адправіўся на заставу свайго бацькі нібыта працягваць сувязі традыцыяў і пакаленьняў. Там Лукашэнка-малодшы быў адзначаны айцом і атрымаў высокую дзяржаўную узнагароду. Дарэчы, "зьнізу" у краіне ўжо пачынаюць гучаць прапановы аб адкрыцьці помніка жывому "правадыру нацыі"…



# АБМЕН ПАЛІТВЯЗНЯЎ НА СТАНЦЫІ КОЛАСАВА

## ПЕРАПЛЯЦЕННІ ЛЁСАЎ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА І ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА

Сустрэўшыся на памежным мастку, яны абмяняліся паглядамі і, пазнаўшы адзін аднаго, па старой інтэлігенцкай звычцы ў знак прывітання прыўзнялі капелюшы. Хоць і забаранялася, але яны ўсё ж абмовіліся некалькімі словамі і разышліся: адзін — на захад, другі — на ўсход. Кожны з іх у тыя імгненні цвёрда верыў у лепшае. Але выйшла інакш: жыццё абодвух трагічна абарвалася з розніцай у шэсць гадоў. Аднаго расстралялі сталінскія каты ў засценках НКУС, а другі, як сведчаць некаторыя, быў забіты савецкімі партызанамі ва ўласнай кватэры...

Сёння станцыя Коласава нічым асаблівым не вылучаецца сярод сотняў сабе падобных на Беларускай чыгунцы. Гэта, можна сказаць, звычайны паўстанак з чатырма парамі чыгуначных шляхоў, якія пераважна служаць для супынку прыгараднай электрычкі пры патрэбе вельмі экстранага пропуску міжнароднага экспрэса ці іншага хуткага цягніка. А між тым, у 20 — 30-я гг. мінулага стагоддзя гэтая станцыя мела куды большую вядомасць: Коласава знаходзілася на самым польска-савецкім узмежку і было сведкам самых розных падзей, здарэнняў і нават жыццёвых драм. Калісьці яно славілася як месца абмену паміж Савецкім Саюзам і Польшчай палітычных вязняў. Апошніх у тыя часы ў абедзвюх краінах было даволі шмат, вось таму і мелася неабходнасць у існаванні такога "людскога абменнага пункта". Для гэтых мэт тут, уздоўж чыгуначнага палатна, над паласой савецка-польскай мяжы, быў абсталяваны спецыяльны, падзелены пасярэдзіне парэнчамі, масток. Менавіта ён і рабіўся вызначальнай вяхой у лёсе людзей, чые жыццёвыя шляхі там перасякаліся.

Пра дваіх з іх, вядомых беларускіх літаратараў і грамадскіх дзеячаў, абмененых у Коласаве адзін на другога ў верасні 1933 г., мы і паспрабуем расказаць больш падрабязна. Неабходнасць гэтага бачыцца яшчэ і ў тым, што не так даўно яны ў савецкай гісторычнай навуцы лічыліся "ворагамі народа".

Найперш, напэўна, варта зазначыць, што героі нашага аповеду — шыракавядомыя грамадскія і культурныя дзеячы, абодва прымалі самы актыўны ўдзел у адраджэнскім руху як у перыяд станаўлення беларускай дзяржаўнасці ў першыя два дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя, так і ў заходнебеларускую пару.

Зорка Браніслава Тарашкевіча пачала ўзыходзіць даволі рана і, можна сказаць, выпадкова. Супрацоўнікі рэдакцыі "Нашай Нівы" зрабілі на яго, сына селяніна з ваколіц Вільні, нядаўняга выпускніка адной з віленскіх гімназій, стаўку, накіраваўшы, па дамоўленасці з акадэмікам Аляксеем Шахматавым, на вучобу ў Пецярбург. Менавіта на кафедры рускай мовы Пецярбургскага універсітэта пад кіраўніцтвам вядомага ўжо ў той час мовазнаўцы А. Шахматава і належала дзевятнаццацігадоваму Б. Тарашкевічу засвойваць асновы "беларушчыны", каб затым стварыць для свайго народа першую граматыку яго мовы. **"Беларуская граматыка для школ"** Браніслава Тарашкевіча пабачыла свет у 1918 г., калі яе дваццаціпяцігадовы аўтар быў захоплены наладжваннем нацыянальнай сістэмы асветы і знаходзіўся ў цэнтры ўсіх палітычных падзей.

Дарэчы, станаўленне Браніслава Тарашкевіча як палітыка таксама адбылося ў былой расейскай сталіцы. Менавіта ў Пецярбургу ён уліўся ў шэрагі Беларускай сацыялістычнай грамады, якая пасля ператварылася ў Беларускую сацыялдэмакратычную партыю. Там жа ён атрымаў і першую ў жыцці працоўную пасаду загадчыка культурна-асветнага аддзела Пецярбургскага аддзялення Беларускага нацыянальнага камісарыята.

Вярнуўшыся ў тым самым 1918 г. на Беларусь, Б. Тарашкевіч паспрабаваў сябе і ў якасці выкладчыка беларускай і грэцкай моў Мінскага настаўніцкага інстытута (з 1919 г. — педагагічны інстытут) і нават загадчыка беларускага сектара дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы — самастойнага палітычна-адміністрацыйнага ўтварэння на тэрыторыі Віленскага краю ў складзе Польшчы, што існавала ў сярэдзіне 1920 — пачатку 1921 г. З устанаўленнем у сакавіку 1921 г. савецка-польскай мяжы па ўмовах Рыжскага мірнага пагаднення Браніслаў Тарашкевіч актыўна ўключыўся ў грамадска-палітычнае жыццё Заходняй Беларусі. Менавіта яго клопатамі і было створана Таварыства беларускай школы — культурна-асветная арганізацыя, асноўныя задачы якой — супрацьстаянне паланізацыі заходнебеларускага насельніцтва і барацьба за нацыянальную самасвядомасць працоўнага беларуса.

Дзейнасць ТБШ на чале з Б. Тарашкевічам займела вялікі розгалас на абсягах заходнебеларускіх земляў. Аўтарытэт як самой арганізацыі, так і яе кіраўніка ды яго спадкаемцаў па адраджэнскай справе рос вельмі хутка. Таму і нядзіўна, што падчас выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган Польскай Рэспублікі — сейм у 1922 г. у ліку чатырнаццаці беларускіх сеймавых паслоў (дэпутатаў) быў і Браніслаў Тарашкевіч. Дэпутацкая дзейнасць аўтара "Беларускай граматыкі для школ", кнігі, якая, дарэчы, перавыдавалася ў Заходняй Беларусі аж пяць разоў, была надзвычай актыўнай. Ён належаў да левага крыла Беларускага пасольскага клуба — самастойнай фракцыі ў польскім сейме, члены якога патрабавалі ад уладаў выканання дзяржавай абавязацельстваў перад нацыянальнымі меншасцямі Польшчы па правах іх нацыянальна-культурнага развіцця і захавання сваіх спаконвечных народных традыцый, абрадаў і г. д. Б. Тарашкевіч, зразумела ж, адстойваў у сейме інтарэсы беларусаў. Яго палымяныя, вострыя па змесце прамовы з трыбуны сейма на абарону сацыяльных і нацыянальных правоў працоўных Заходняй Беларусі — яркая старонка ў беларускай публіцыстыцы.

Аднак палітычная барацьба не абышлася без рознагалоссяў у пасольскім клубе. Цвёрда прытрымліваючыся сваіх перакананняў, Браніслаў Тарашкевіч у 1925 г. выйшаў з яго складу і з групай аднадумцаў заснаваў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду (БСРГ), Цэнтральны камітэт якой і ўзначальваў амаль на працягу двух гадоў. У 1925 г. Б. Тарашкевіч уступіў у Кампартыю Заходняй Беларусі. Асобна зазначым, што камуністы вельмі цесна супрацоўнічалі з БСРГ, яны ўваходзілі ў склад кіраўніцтва многіх мясцовых арганізацый і нават ЦК Грамады. Дзейнасць гэтых дзвюх буйнейшых на тэрыторыі Заходняй Беларусі палітычных арганізацый, накіраваная на актывізацыю нацыянальна-вызваленчага руху сярод "усходніх крэсаў", безумоўна ж, не магла застацца не заўважанай уладамі. На пачатку 1927 г. па Заходняй Беларусі прайшла хваля палітычных рэпрэсій супраць грамадоўцаў. У выніку за турэмныя краты трапіў у ліку іншых лідэраў БСРГ і Браніслаў Тарашкевіч і быў асуджаны на 12 гадоў зняволення. Гэты арышт займеў шырокі розгалас у асяродку сусветнай грамадскасці. Таму ў 1930 г., каб зняць з асуджаных грамадоўцаў арэол пакутнікаў, Б. Тарашкевіча і яго паплечнікаў датэрмінова вызвалілі з астрога згодна з спецыяльным распараджэннем прэзідэнта Польшчы. Гэтай мерай польскія ўлады пераследавалі і мэту дыскрэдытацыі Браніслава Тарашкевіча, абвясціўшы, што яго вызвалілі з турмы за выдачу звестак аб дзейнасці Кампартыі Заходняй Беларусі.

Астрог у польскім гарадку Грудзёндзы Б. Тарашкевіч пакідаў з пратэстам, бо добра ведаў, што так званая міласціна з яго вызваленнем насіла чыста палітычны характар. Два гады зняволення аніяк не паўплывалі на светапогляд Б. Тарашкевіча — ён па-ранейшаму стаў у шэрагі змагароў за вызваленне Заходняй Беларусі з-пад засілля польскіх уладаў. Прынамсі, па даручэнні ЦК КПЗБ ён канспірацыйна накіроўваў дзейнасць рэвалюцыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызваленчай арганізацыі пад назвай "Вызваленне", створанай на рэштках разгромленай пілсудчыкамі Грамады. За ўдзел у гэтай арганізацыі ў лютым 1931 г. Браніслаў Тарашкевіч ізноў трапіў у астрожны карцэр. Праз паўтара года папярэдняга зняволення быў вынесены новы прысуд — восем гадоў катаржнай турмы.

Францішак Аляхновіч быў больш як на дзесяць гадоў старэйшы за Браніслава Тарашкевіча, таму яго грамадская і палітычная дзейнасць пачалася крыху раней.

Свае маладыя гады Ф. Аляхновіч прысвяціў тэатральнаму мастацтву і журналістыцы. Зрэшты, апошні занятак і "зблізіў" яго ў 1910 г. з тагачаснымі праваахоўнымі органамі: у выдаваным ім гумарыстычным часопісе "Perkunas" ("Пяркунас") ён змясціў свой артыкул антыцарскай накіраванасці, за што зазнаў шмат непрыемнасцяў ад паліцыі. Каб не трапіць за краты (а справа дайшла да суда), Францішак мусіў эміграваць у Галіцыю, дзе ён быў акцёрам польскіх правінцыйных тэатраў.

У 1913 г. у Расейскай імперыі шырока адзначалася 300-годдзе царскай дынастыі Раманавых. З нагоды гэтай падзеі была аб'яўлена амністыя, якая дала магчымасць Францішку Аляхновічу вярнуцца ў Вільню. Аднак улады ўгледзелі ў згаданым артыкуле яшчэ і антырэлігійную крамолу, за якую ён быў зняволены.

Год астрожнага жыцця, "падараваны" Ф. Аляхновічу судом, не прайшоў дарма. З турмы ён выйшаў вядомым драматургам: у адным з казематаў небезвядомых Лукішак ён напісаў сваю першую п'есу "На Антокалі" (1914 — 1915). Пасля працаваў у самых розных месцах, не грэбуючы іншы раз і чарнавой работай. На працягу двух гадоў у акупаванай кайзераўскімі войскамі Вільні Францішак Аляхновіч стварыў адну за адной п'есы "На вёсцы", "Бутрым Няміра" (1916), "Манька", "Базылішак", "Каліс" (1917), якія яшчэ больш умацавалі яго драматургічную славу.

Рэвалюцыйныя падзеі ў Расеі і наступ "беларушчыны" ў Мінску ў чэрвені 1918 г. прывялі Ф. Аляхновіча на ўсход. Ён паспяхова перайшоў лінію германа-савецкага фронту і ўліўся ў грамадска-культурнае жыццё тагачаснага Мінска. Менавіта тут, у Беларускім савецкім тэатры, яму на болыш высокім, чым у Вільні, узроўні надалася магчымасць займацца ўлюбёнай справай — тэатральнай дзейнасцю. У той час Францішак Аляхновіч выступаў на сцэне БДТ і як пастаноўшчык, і як выканаўца галоўнай ролі ў п'есе "Бутрым Няміра". Не пакінуў ён Мінск і пасля акупацыі горада польскімі легіянерамі. Пад патранажам апошніх у якасці дырэктара і рэжысёра Ф. Аляхновіч якраз і рупіўся аб дзейнасці мінскага Беларускага народнага тэатра, які фінансавалі ўлады Польшчы.

У 1920 г., з адыходам польскіх войскаў на захад, Францішак Аляхновіч зноў пераехаў у Вільню, дзе плённа займаўся тэатральнай і літаратурнай дзейнасцю. Менавіта ў тую пару з-пад яго пяра выйшлі п'есы "Птушка шчасця", "Няскончаная драма" (1920), "Шчаслівы муж" (1922) і іншыя, якія адразу сталі папулярнымі сярод знаўцаў тэатральнага мастацтва. Застаўся Ф. Аляхновіч і ў віры беларускага грамадскага жыцця Вільні. Прынамсі, ён быў адным з актыўных дзеячаў заснаванага Браніславам Тарашкевічам Таварыства беларускай школы, рэдагаваў і выдаваў газету "Беларускі звон", якая яго намаганнямі несла ў народ нацыянальна-дэмакратычныя ідэі, шмат месца адводзілася ў ёй і літаратуры. Дарэчы, з "Беларускім звонам" супрацоўнічалі многія заходнебеларускія дзеячы, у тым ліку і Браніслаў Тарашкевіч.

Увесь гэты час Францішак Аляхновіч увогуле прыязна ставіўся да рэалій Савецкай Беларусі. Яго, як і большасць руплівых заходнебеларускай культурнай нівы, спакушаў размах падзей, накіраваных на ўсталяванне беларускасці літаральна ва ўсіх сферах тагачаснага жыцця "новай Беларусі". Са шчырай верай у незваротнасць працэсу беларусізацыі ў БССР Ф. Аляхновіч паддаўся вярбоўцы бальшавіцкай контрразведкі, прыехаў у Мінск на канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу, прыняў рашэнне застацца на сталае жыхарства ў Савецкай Беларусі. Адбылося гэта ў 2-й палове 1926 г., а ўжо на пачатку 1927 г., абвінавачаны ў супрацоўніцтве з польскаю дэфензівай і ў прыналежнасці да адной з контррэвалюцыйных арганізацый, ён быў арыштаваны. Калегія ГПУ вынесла яму суровы прысуд — 10 гадоў зняволення на Салавецкіх астравах.

Вельмі цікавымі падаюцца і ўмовы адбывання астрожных тэрмінаў героямі нашага артыкула. Таму, каб быць як мага больш дакладнымі, спашлёмся на вядомыя нам пісьмовыя крыніцы, якія закранаюць гэтую тэму.

«Апошні арышт, следства, астрожнае ўтрыманне Тарашкевіча ў Польшчы былі асабліва суровыя, — піша ў прадмове "Слова, сказанае ў абарону сейбіта" да кнігі "Выбранага" Б. Тарашкевіча літаратуразнаўца Арсень Ліс. — З цэнтральнай варшаўскай турмы яго хутка перавялі ў турму ў Гродне, трымалі ў халоднай і сырой камеры. Тут, у горадзе "старажытным і прыгожым", як пісаў пра яго адвакату Тэадору Дурачу, правёў Тарашкевіч больш за два гады... Хоць з пачатку 30-х астрожны рэжым у даваеннай Польшчы зрабіўся больш жорсткі, а ў Тарашкевічу ўлады бачылі паслядоўнага і моцнага праціўніка рэжыму і таму імкнуліся трымаць ізалявана, мінімум правоў, якія належалі палітзняволеным, ён меў. Абмяжоўваўся спіс выданняў, якімі мог карыстацца. Асабліва перыёдыкі. Дый кніг. Выручалі турэмны камітэт, жонка, якая здолела перадаць мужу нават пільна патрэбную яму на той час "Дзяржаву і рэвалюцыю" Леніна. Дзякуючы Веры Андрэеўне (жонка. — **С. Г.**) меў у камеры "Очерк сравнительной грамматики индоевропейских языков", "Ритм" Андрэя Белага, "Северобелорусские говоры" прафесара Растаргуева, стос слоўнікаў. Тое-сёе далі ў турэмнай бібліятэчцы, напрыклад, "Кнігу песень" Г. Гейнэ ў арыгінале, вельмі дарэчную ў астрозе "Гімнастыку" Мюлера і інш. Большасць кніг з гэтага спісу патрэбна была канкрэтна для працы. Пачаты ў грудзёндзскай турме пераклад "Пана Тадэвуша" пасля вялікага перапынку пайшоў добра...

Даводзілася эканоміць паперу, улічваць кожны аркуш. Добра: вершы можна было трымаць у памяці, на чарнавік накідваць найбольш цяжка пераадольнае. Часам працаваў апантана. Пад крокі ў рытм строф радкі з мовы арыгінала набывалі новы слоўна-вобразны каларыт, сэнс якіх яснеў новым адценнем... Каля года... жыў у свеце вобразаў паэмы ("Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча. — **С. Г.**): вясной 1931 г. Тарашкевіч засеў тут над ёй, у студзені трыццаць другога не-

калькі брульёнаў з поўным перакладам на мову беларускую, завізіраваных турэмнай адміністрацыяй, пераслаў на дэпазіт у Вільню. Цяпер марыць аб пераводзе ў віленскую турму Лукішкі. Пасля зацвярджэння ў сакавіку 1933 года апеляцыйным судом прысуду акруговага суда спецыяльнай заявай просіць пракурора перавесці ў Лукішкі. Просьбу матывуе дзвюма прычынамі: хацеў бы ўбачыць старэнькую маці, якой у Гродна не дабрацца, другая — абумоўлена характарам занятку. Спадзяецца, што пракурор, урэшце, уважыць яго "філалагічнае рамяство": працуючы над гістарычнай граматыкай беларускай мовы, меў патрэбу ў першакрыніцах, выпісках са старалітаратурных помнікаў, якія былі ў Вільні. У гэтым звароце Тарашкевіча да судовай улады сапраўды не было ўкрытага сэнсу. У гродзенскай турме, закончыўшы пераклад "Пана Тадэвуша", Тарашкевіч засеў за вывучэнне спецыяльнай літаратуры па лінгвістыцы. Напісаннем гістарычнай граматыкі беларускай мовы хацеў завяршыць фундамент пад шырокае навуковае яе пазнанне... ».

Пра свой нявольніцкі лёс Францішак Аляхновіч расказваў у аповесці **"У капцюрох ГПУ"** (1937), напісанай неўзабаве пасля абмену яго на Бранiслава Тарашкевіча ў Коласаве. У ёй даволі шмат яркіх і дакладна выпісаных старонак. Працытуем з іх усяго некалькі радкоў.

*"Дзьверы адчыніліся. Заскрыгатаў ключ.*
*Я глянуў на сваю новую кватэру.*

*Падвал. Падлога цаглянaя. У вакне выбіты шыбы. Краты. На сьценах нейкія дзіўныя дзіры. Нейкія плямы. Мабыць, гэта былі плямы ад расьцёртых клапоў, але мне яны тады здаваліся пырскамі крыві расстрэляных тут людзей.*

*Страшэнна сьцюдзёна. У гэты дзень тэмпература на панадворку, мусіць, была ня менш за 10 градусаў марозу, а тут выбіты шыбы ў вакне.*

*Я закурыў (папярос у мяне не адабралі) і пачаў хадзіць па камары, ад сьценкі да сьценкі, з кута ў кут, як зьвер, зачынены ў клетцы...'*

*«У перапоўненай, як усюды, камары Допру* (дом папярэдняга заключэння. — **С. Г.)** *я першы раз спаткаўся з крымінальным элементам. Хаця крымінальных была меньшасьць, яны, аднак, патрапілі стэрарызаваць усю камару. Уначы акуратна нас абкрадалі. Зьядалі нашыя спажывецкія прадукты, забіралі адзежу, абутак. Ніякая рэвізія не магла знайсьці ўкрадзеных рэчаў. Злодзеі выкідалі ўкрадзенае праз ваконныя краты, а там ужо гэта падбіралі іншыя, і гэткім чынам рэчы перадаваліся з камары ў камару...*

*А ўдзень было ня лепш. Удзень яны проста дамагаліся, каб аддаваць тое, да чаго яны прыглядзеліся. Кожны з іх злачынцаў перанесьці з сабой у камару нож і, калі хто прабаваў супраціўіцца, — пагроза нажа была апошнім аргумэнтам.*

*Пакрыўджаныя прабавалі жаліцца перад вастрожнай уладай. Але гэта не памагала. Толькі пасьля цяжка адпакутавалі за гэта. На масавай "прагулцы" на вялізным вастрожным падворку або ў "уборнай" крымінальнікі расправіліся нажом з тымі, хто адважваўся скардзіцца»* .

*"Уначы збудзілі нас:*

*— На работу!*

*Што за чорт! На якую работу? Дык жа цёмна! Ноч. Ускокваем шпарка, бо хто не сьпяшаецца — нагой у бок! Выганяюць нас з барака на сьнег.*

*Ясная, марозная палярная ноч. На небе праляляюць нейкія сьветлыя хмаркі. Адна чэзьне, зьяўляецца іншая.*

*Пасьля мігцяць на небе нейкія асьветленыя палосы. Там, у прасторы, здаецца, адбываецца нейкі творчы працэс, паўстаюць новыя сьветы...*

*Гэта мігаціць паўночнае зіхаценьне.*

*Ідзём рэйкамі. З бакоў горы сьнегу. Далёка відаць таварныя пляцформы, нагружаныя дошкамі. Нам давядзена заданьне: перасунуць гэтыя пляцформы пару кілёмэтраў у бок станцыі.*

*Учапіўшыся, як мурашкі, за колы й буфэры, за дошкі, што тырчаць, пхаем наперад цяжкія пляцформы. Нехта зваліўся ізь сьнежнае насыпы пад кола. Крык разьдзірае паветра, пасьля лаянка, пасьля зноў цішыня, і чуваць толькі цяжкі подых колькі дзесяткаў людзей, якія напружваюць свае мускулы.*

*Той, што зваліўся ізь сьнежнае насыпы пад кола пляцформы, шчасьліва вылазіць з-пад ног сваіх таварышоў. Страсае зь сябе сьнег.*

*— Ну, ты! Не аставайся! Даганяй!"* .

У такіх вось умовах і бавілі свой нявольніцкі час два палітычныя вязні: "польскі", Браніслаў Тарашкевіч, — два гады ў астрозе ў Гродне і "савецкі", Францішак Аляхновіч, — сем гадоў на Салавецкіх астравах. І хто ведае, ці сустрэліся б яшчэ калі-небудзь гэтыя даўнія знаёмыя, калі б не супадзенне абставінаў: за вызваленне Б. Тарашкевіча з-за кратаў польскай турмы хадайнічаў НКУС праз прагрэсіўную грамадскасць свету і БССР ды СССР, а Ф. Аляхновіча — уплывовыя сваякі ў Польшчы.

І вось абмен. Самы што ні ёсць раўназначны: абодва — літаратары, вядомыя людзі і былыя калегі па заходнебеларускім нацыянальна-вызваленчым руху, абодва маюць прызнанне ў грамадстве. На вуліцы стаяў верасьнёўскі дзень 1933 года. На межавай станцыі Коласава, як заўсёды, было ціха і пустынна. Зрэшты, зноў звернемся да Ф. Аляхновіча, удзельніка і непасрэднага сведкі тых падзей.

*«Надвор'е агіднае. Віхор гудзе ў недалёкім лесе і гоніць хмары, якія лятуць хутка-хутка й грамазьдзяцца адна на адну, як быццам хочуць хутчэй праляцець над савецкай прымежнай брамай, што дзеліць два сьветы.*

*Угледзіўся ў надпіс: "Коммунизм сметет все границы", які бачыў гэтак даўно — у лістападзе 1926 г., калі ехаў у Савецкае гаспадарства зь вераю ў магчымасьць беларускае культурнае працы там — у БССР. Тады гэтак сама была восень, але я ехаў з надзеяй на вясну ў сэрцы. Сяньня варочаюся, бадзяка, у вастрожным бушлаце, працьверазіўшыся на Салаўках, шчасьлівы, што праз мамэнт нага мая пераступіць мяжу краіны "будаўніцтва сацыялізму" — у вадваротным кірунку. І сяньня, але ў маёй душы цяпер сьветла, сонечна, радасна...*

*Прыглядаюся да паходу, які набліжаецца да нас — з таго боку.*

*Мой гэпісты гэтак сама ўтаропіўся ў гэтую групу і ад часу да часу рэгулюе наш крок:*

*— Павальней!... Хутчэй!..*

*Відаць, ідзець аб тое, каб прыйсьці на ўмоўлене места на мяжы ў дакладна азначаным часе. Бо было-б недалікатна прымушаць чакаць на сябе, а лішняя пасьпешнасьць абніжала-б прэстыж гаспадарства.*

*Гэтак я разумеў гэную каманду.*

*Я ўжо вырозьніваў твары людзей, якія да нас падыходзілі. Наперадзе ішоў нейкі высокі мужчына ў цывільнай вопратцы. Зь ім — з двума паліцыянтамі па бакох — той, каго польскі ўрад абменьваў на мяне: Браніслаў Тарашкевіч. У гэты момант я адчуў ня толькі духовы, але й фізічны кантраст паміж намі. Вязень "капіталістычнага гаспадарства" меў на сабе прызваіты фільцавы капялюш, добра скроенае восеньскае паліто, беззаганна вычышчаныя боты... Савецкі вязень ішоў у старэцкім падзёртым кажуху на салавецкім бушлаце...*

*Тарашкевіч ішоў, гледзячы на мяне зь нявыразнай усьмешкай на твары.*

*Гэтулькі гадоў ня бачыўшы, з зацікаўленьнем углядаўся я на гэтага чалавека, які хоць у добрай веры, усё-ж гэтулькі зламаў чалавечых жыцьцяў, кіруючы вочы сваіх землякоў на міраж за межавымі слупамі...*

*Цырымонія абмену. Адданьне чэсьці, паклон капялюшом, сьцісканьне рук, падпісаньне акту абмену. І мы, колішнія прыяцелі, а цяпер — чужыя сабе людзі, шляхі якіх разыходзяцца ў процілежныя бакі, падалі сабе рукі. Звычайныя вастрожныя камплімэнты: "Добра выглядаеш". — "Ты таксама". — "Дзякуй, але сумняваюся..."*

*Пасьля — колькі горкіх словаў за манлівыя міражы, але тут спыніў нашу гутарку старшыня польскае рэпатрыяцыйнае камісіі:*

*— Panowie mieli mowić o sprawach prywatnych, a panowie mowia o polityce...*

*А савецкі гэнэрал, пачуўшы нашую гутарку "на политические темы", ня ведаў, што рабіць, быў "захвачен врасплох".*

*Урэшце — апошняе халоднае пацісканьне рук.*

*— Бывай здароў!..»* .

Абодва былыя вязні тут жа пакінулі Коласава. Б. Тарашкевіча адвезлі на першую савецкую чыгуначную станцыю Негарэлае, а Ф. Аляхновіча, які "ап'янеў ад шчасця", — у Стоўбцы.

Безумоўна ж, цяжка адназначна трактаваць вынікі гэтага абмену. Дый рабіць гэтага мы не будзем. Аднак усё ж возьмем на сябе смеласць сцвярджаць, што куды больш у гэтай сітуацыі пашчасціла Францішку Аляхновічу. Вырваўшыся з "кіпцюроў ГПУ", ён стала пасяліўся ў Вільні і меў магчымасць займацца літаратурнай справай. З-пад яго пяра выйшла некалькі п'есаў, ён актыўна займаўся грамадскай і палітычнай дзейнасцю. У той самы час стварыў і аповесць "У капцюрох ГПУ" — першае дакументальнае сведчанне аб разгуле камуністычнага тэрору ў Савецкім Саюзе — твор, які неўзабаве пасля выхаду ў свет быў перакладзены і выдадзены на многіх мовах.

Надзіва паспяхова перажыўшы акупацыю савецкімі войскамі даваеннай Літвы, у склад якой, як вядома, быў тады перададзены Віленскі край, літоўцы імгненна перанеслі сваю сталіцу ў старадаўні асяродак беларускай культуры — Вільню. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны Францішак Аляхновіч, шчыра не жадаючы, каб на Беларусі зноў паўтарыліся жахі сталінізму, імкнуўся супрацьстаяць гэтаму. На жаль, памагатым у гэтым сваім змаганні ён выбраў нямецка-фашысцкі акупацыйны рэжым. Супрацоўніцтва з акупантамі не было даравана — 3 сакавіка 1944 г. цела Францішка Аляхновіча было знойдзена на яго віленскай кватэры. Гэтае забойства прыпісваецца партызанам.

Напачатку шчасліва складвалася жыццё ў СССР і ў Браніслава Тарашкевіча. У Мінску яго сустрэлі як пакутніка і ледзьве не як нацыянальнага героя. Аднак у беларускай сталіцы прадстаўнік няскоранай і змагарнай Заходняй Беларусі заставаўся нядоўга. Пасля вызвалення, даўшы яму магчымасць наладзіць некалькі сустрэч з творчай інтэлігенцыяй Беларусі, Б. Тарашкевіча пад апекай усё таго ж ГПУ-НКУС перавялі ў Маскву, дзе ў канцы 1933 г. яго прызначылі на пасаду загадчыка аддзела Польшчы і Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце. Праз два з паловай гады, 6 мая 1937 г. ён быў арыштаваны, і пасля паўтарагадовага катавання на допытах (Тарашкевіча абвінавачвалі ў сувязях з польскай разведкай) 29 лістапада 1938 г. спрактыкаваная рука бязлітаснага ката з НКУС спыніла жыццё аднаго з найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускай навукі, вядомага грамадскага дзеяча нашай краіны.

А інакш, напэўна, і быць не магло. Бо, як пісаў пра яго ў "У капцюрох ГПУ" Францішак Аляхновіч, *"ён із вастрогу пойдзе туды, дзе ўвесь вялізарны край — гэта адзін вялікі вастрог, дзе думка чалавечая сьцісненая ў вабцугох савецкага абсурду, дзе ня толькі дзеяць і гаварыць, але й думаць і дыхаць трэба паводле аднаго, для ўсіх абавязковага шаблёну. Ён пойдзе ў край белага нявольніцтва, голаду, нэндзы, людаедзтва..."* .

У адным толькі памыліўся Францішак Аляхновіч — яго аднадумцу, напэўна, не давялося паспытаць таго прыніжэння і нечалавечага існавання, якія выпалі на долю Ф. Аляхновіча ў ГУЛАГу, — па-зладзейску выпушчаная ў скроню куля пазбавіла Браніслава Тарашкевіча такога "шчасця" ці не ў мінскіх Курапатах.

Сяргей ГАЛОЎКА (Роднае Слова)

*************************************

## Ці пражыве літаратура без часопісаў?

**У сярэдзіне снежня 2001 года культурніцкія колы Беларусі скаланула сенсацыйная навіна: улады мяркуюць у 2002 ліквідаваць амаль усе айчынныя літаратурна-мастацкія часопісы, а замест іх стварыць нейкае аб'яднанае выданне, каб сагнаць усіх "нацыяналістычных недабіткаў" у адзін калгас. Але гэтая абсурдная ідэя з трэскам праваліласа на калегіі Дзяржкамдруку, якая адбылася 21 снежня ў Менску.**

Спярша чыноўкі, апрануўшыся ў хітоны змагароў за эканомію дзяржбюджэтных сродкаў, хацелі скасаваць, як нікому не патрэбныя, часопісы "Крыніца", "Маладосць" і "Першацвет". Найбольш небяспечным рассаднікам вольнадумства ўяўлялася "празаходняя", з прэтэнзіяй на эўрапейскі інтэлектуалізм, "Крыніца". Яе ўжо неаднаразова спрабавалі закрыць – скарачалі фінансаванне, не выплочвалі па паўгады заробак рэдактарам, прапаноўвалі не друкаваць апазіцыйных да рэжыму пісьменнікаў. Аднак рэдакцыйны калектыў цудам адстаяў права на выданне папулярнага ў інтэлектуальных колах часопіса.

- Сітуацыя з выхадам айчынных літаратурна-мастацкіх выданняў зараз выглядае вельмі незайздросна, калі не катастрафічна, - каментуе спадар Валянцін Акудовіч. - Нягледзячы на тое, што Дзяржкамдрук не пайшоў на знішчэнне часопісаў, яны зараз, кажучы фігуральна, вісяць на нітачцы. Магчыма, скароцяць штаты, пэрыядычнасць выхаду. Сумна, але мушу канстатаваць, што ўвесь літаратурна-мастацкі працэс рассыпаецца ў нас на вачах...

Сваю апошнюю тэзу Валянцін Акудовіч патлумачыў тым, што нават рэдактары незалежных літаратурна-мастацкіх часопісаў, якія не маюць дзяржаўнай фінансавай падпіткі, страцілі свой колішні імпэт. Рэч у тым, што на адным голым энтузіязме ды разавых грантах далёка не заедзеш. Дый добрых твораў катастрафічна не хапае. Сёння ўжо ніхто не хоча працаваць бясплатна. З вялікімі цяжкасцямі выдае два разы на год свае "Фрагмэнты" Ігар Бабкоў, даўно не бачна новых нумароў часопіса "ARCHE" і "ARCHE-Скарына". Ёсць звесткі, што вядомы гісторык Генадзь Сагановіч спыняе выпуск свайго "Беларускага гістарычнага агляду", а Міхась Баярын скасоўвае авангардны часопіс "Nihil.

Адзінае радуе, што ўвесну 2002 года маюць зьявіцца новыя нумары часопісаў "Калосьсе" і "Правінцыя". Зрэшты, як бы там ні было, беларуская літаратура, загнаная ў шчыльныя дзяржаўныя рэзервацыі, мае шанец выжыць, калі ейныя стваральнікі перастануць спадзявацца на добрага дзядзьку. Бо давяраць можна адно ўласнаму таленту. А талент заўсёды праб'ецца!

Людвік Сарока (Пагоня)

# Беларускія палякі або палякі ў Беларусі?

**(Працяг з папярэдняга №)**

Палякі, безумоўна, з'яўляліся адной з асноўных этнічных груп сярод насельніцтва БССР. У перыяд "палітыкі беларусізацыі" іх этнакультурныя асаблівасці ў асноўным улічваліся. У 1921 г. ЦВК БССР спецыяльным рашэннем замацаваў за польскай мовай статус дзяржаўнай разам з беларускай, яўрэйскай і рускай мовамі. У 1924 г. існавалі 136 польскіх школ і 7 польскіх дзіцячых дамоў. Дзейнічалі таксама змешаныя беларуска-польскія школы. З 1922 г. у Менску працавалі польскі педагагічны тэхнікум, польскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага інстытута, якія рыхтавалі настаўнікаў для польскіх школаў і выхавальнікаў для дашкольных установаў. Працай польскіх навучальных установаў кіравала Польскае бюро пры Наркамаце асветы. У 1920-30-ыя г. выдавалася 6 польскіх газет. У 1927 г. было створана Польскае аддзяленне Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У месцах кампактнага пражывання польскага насельніцтва арганізоўваліся польскія нацыянальныя сельсаветы. Усяго былі утвораны 41 польскі сельсавет. З 1932 па 1937 г. на базе Койданаўскага раёна БССР існаваў Польскі нацыянальны раён як аўтаномная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. Яго ўзначальвалі польскія камуністы-палітэмігранты.

У выніку палітычных рэпрэсій другой паловы 30-х г. польскія нацыянальна-адміністратыўныя адзінкі былі скасаваныя. Ліквідаваліся польскія школы, клубы і бібліятэкі. Быў зачынены Польскі тэатр у Менску. Апагей антыпольскіх праследаў наступіў у 1937-1938 гг. Пачаліся масавыя дэпартацыі і фізічнае вынішчэнне польскага насельніцтва. У межах таталітарнай савецкай дзяржавы не было месца нацыянальным адметнасцям. Аналіз статыстычных матэрыялаў сведчыць, што колькасць палякаў у БССР паміж 1937 і 1939 гг. зменшылася на 61,5 тыс. Частка з іх была забітая ў Курапатах і іншых месцах масавых растрэлаў, частка – дэпартаваная ў Казахстан і Сібір. Толькі ў выніку "польскай аперацыі", па сфабрыкаванай АДПУ-НКУС справе "Польскай вайсковай арганізацыі" было арыштавана болей 21 тыс.чал.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР (верасень-кастрычнік 1939 г.) доля палякаў сярод насельніцтва рэспублікі значна павялічылася. Аднак рэпрэсіі супраць польскай супольнасці працягваліся. На тэрыторыі Заходняй Беларусі яны распачаліся адразу пасля ўступлення Чырвонай арміі.

Так, ужо на 7 кастрычніка 1939 г. беларускія органы НКУС арыштавалі 2708 асобаў пераважна польскай нацыянальнасці. На падставе вывучэння захаваўшыхся дакументаў НКУС-КДБ Беларусі гісторык Аляксандр Хацкевіч сцвердзіў, што за перыяд 1939-1941 гг. з заходніх абласцей рэспублікі на ўсход быдо дэпартавана больш за 120 тыс.чал. Асноўную частку рэпрэсаваных складалі палякі. Досыць часта яны лічылі менавіта беларусаў галоўнымі віноўнікамі таго, што з імі адбывалася, хаця беларусы і самі з'яўляліся аб'ектам палітычных рэпрэсій. Наогул, падзеі другой паловы 30-х г. нанеслі моцны ўдар па патрыятызму беларускіх палякаў. Беларусь сталася часткай таталітарнай савецкай дзяржавы, у якой палякі адчувалі сябе нацыяй «другога гатунку».

Далейшаму росту напружанасці ў польска-беларускіх адносінах спрыяла палітыка акупацыйных уладаў падчас савецка-германскай вайны. Даследчык Юры Туронак звярнуў увагу на працэс вяртання польскім земле-ўласнікам маёмасці (лета-восень 1941 г.), які суправаджаўся вострымі канфліктамі ў галіне нацыянальных адносінаў і арыштамі беларусаў па абвінавачванню ў «бальшавізме». На думку гісторыка, «стварылася атмасфера польскага вяршэнства і антыбеларускага тэрору». Праз нейкі час ужо беларусы сталіся «нямецкімі фаварытамі». Такім чынам, распальвалася нацыянальная варожасць дзеля ўмацавання нямецкага панавання.

У лютым 1942 г. узнікла Армія Краёва (АК), якой суджана было стаць галоўнай сілай польскага руху супраціўлення. Галоўная мэта дзейнасці АК на тэрыторыі Заходняй Беларусі (аднаўленне польскай дзяржаўнасці) разыходзілася з мэтамі і савецкіх, і беларускіх партызанаў. Адназначна ацаніць дзейнасць польскага руху супраціўлення на беларускіх землях немагчыма. Вядома, што ў АК змагаліся не толькі палякі, але і беларусы, што яе дзейнасць спрыяла вызваленню Беларусі ад германскай акупацыі. Але існуе шмат фактаў, якія сведчаць, што беларускае насельніцтва таксама з'яўлялася ахвярай дзеянняў АК. Камандзір Стаўбцоўскай групоўкі АК капітан Адольф Пільх адзначаў, што са снежня 1943 па чэрвень 1944 г. ягоныя вайскоўцы забілі каля 6 тыс. «бальшавікоў». На думку Ю.Туронка, пераважную частку гэтых «бальшавікоў» складалі мірныя беларускія жыхары, якія падазраваліся ў сувязях з савецкімі або беларускімі партызанамі.

Надыход савецкай арміі прынёс новыя шматлікія ахвяры. Праследам былі ахопленыя не толькі калабаранты. Шмат беларусаў і палякаў было абвінавачана ў нацыяналізме і рэпрэсавана. Пачалася новая хваля дэпартацыяў. Паводле падлікаў Пятра Эберхардта было дэпартавана яшчэ каля 80 тыс.чал.

Адразу пасля завяршэння ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі ўзнікла праблема мяжы. СССР ад пачатку вайны з Германіяй настойваў на неабходнасці вяртання да межаў з чэрвеня 1941 г. Іосіф Сталін здолеў дамагчыся згоды ўрадаў ЗША і Велікабрытаніі. Аднак на працягу 1944-1955 гг. заходняя мяжа СССР (і БССР) неадназразова ўдакладнялася. Практычна ўсе гэтыя ўдакладненні зводзіліся да чарговага перасоўвання мяжы на ўсход. Так, напрыклад, 20 жніўня 1944 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову пра перадачу Польшчы большай часткі зямель Беластоцкай вобласці. (Зразумела, што папярэдне гэтае рашэнне было прынята ў Маскве.) Дзеля ўрэгулявання спрэчных пытанняў у верасні 1944 г. паміж урадам БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення было падпісана пагадненне пра рэпатрыяцыю беларускага насельніцтва з Польшчы і польскага – з Беларусі. У выніку ў 1945-1947 гг. з Беларусі выехала болей 274 тыс.чал. Большасць выехаўшых складалі палякі. Таксама трэба ўлічваць, што мноства палякаў было вывезена ў Германію ў перыяд акупацыі. Яны засталіся на Захадзе або вярнуліся ў Польшчу. На думку П.Эберхардта, рэпатрыяцыя ў шырокім разуменні ахапіла ад 350 да 400 тыс. палякаў.

У 1959 г. паводле перапісу насельніцтва на тэрыторыі Беларусі пражывала 538,9 тыс. палякаў (6,7%). Перапісы, якія праводзіліся ў БССР, сведчаць, што доля палякаў сярод усяго насельніцтва рэспублікі няўхільна зменшвалася: 1959 г. – 538,9 тыс. (6,7%), 1970 г. – 382,6 тыс. (4,3%), 1979 г. – 403,2 тыс. (4,2%), 1989 г. – 417,7 тыс. (4,1%). П.Эберхардт не пагаджаецца з гэтымі падлікамі. Паводле ягонага аналізу ў 1989 г. у БССР пражывала каля 600 тыс. палякаў.

Палітычныя рэпрэсіі засталіся ў мінулым, аднак свабоды нацыянальна-культурнага развіцця палякі, як іншыя народы, не атрымалі. У БССР працягвалася гвалтоўная палітыка русіфікацыі. Пасля Другой сусветнай вайны руская мова сталася ў рэспубліцы фактычна адзінай урадавай мовай. У 1947 г. у Гародні была зачынена апошняя польская школа ў Беларусі. Перапіс 1959 г. паказаў, што толькі палова (49,9%) польскай грамадскасці лічыць польскую мову роднай. У 1989 г. іх колькасць зменшылася да 13,3% (55,7 тыс.). Абсалютная большасць лічыла роднай мовай беларускую. Перамены ў моўнай сферы былі першым этапам змяненняў нацыянальнай свядомасці. Польскія даследчыкі часта гавораць пра працэс беларусізацыі палякаў. З гэтым можна пагадзіцца, але трэба ўлічваць, што беларускай дзяржавы не існавала, і беларусізацыя мясцовых палякаў была толькі этапам іх русіфікацыі. Неспрыяльная для палякаў нацыянальная сітуацыя ў БССР разам з фактарам існавання Польскай дзяржавы разбуралі сярод значнай часткі польскага насельніцтва традыцыйнае для яго ўспрыяцце беларускай зямлі як сваёй Радзімы. Беларускія палякі паступова ператвараліся ў палякаў у Беларусі.

Перамены да лепшага распачаліся толькі ў другой палове 80-ых г. разам з працэсам дэмакратызацыі ў СССР. У 1988 г. быў створаны Саюз палякаў Беларусі з сядзібай у Гародні, пачалі ўзнікаць шматлікія польскія суполкі, распачалося факультатыўнае вывучэнне польскай мовы ў школах, з'явілася польская газета «Glos znad Niemna» (1989).

Сітуацыя яшчэ больш змянілася разам з распадам СССР, які адкрыў шлях да стварэння незалежнай Беларускай дзяржавы. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці, а 24 жніўня 1991 г. яна набыла статус канстытуцыйнага закону. 17 верасня 1991 г. змянілася і назва дзяржавы. На карце Еўропы з'явілася Рэспубліка Беларусь. 27 снежня 1991 г. Польшча прызнала яе незалежнасць. Усё гэта спрыяла актывізацыі працэсаў польскага нацыянальна-культурнага адраджэння ў Беларусі. З 1991 г. Гарадзенскае абласное тэлебачанне пачало весці штотыднёвую перадачу на польскай мове, у 1992 г. быў адчынены Польскі народны універсітэт у Менску, працягвалася стварэнне польскіх суполак (у 1994 г. узнік Саюз палякаў на Меншчыне), стваралася сістэма вывучэння польскай мовы і г.д.

Свабода нацыянальнага развіцця, поспехі Беларусі на міжнароднай арэне, адносная стабільнасць эканамічнага становішча рэспублікі на пачатку 90-ых г. спрыялі таму, што ў Беларусі распачаўся працэс фармавання палітычнай беларускай нацыі. Значная частка мясцовай польскай грамадскасці выступіла з заявамі, у якіх адназначна звязвала ўласны лёс з лёсам незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Адзін з першых нумароў часопіса «Magazyn Polski» надрукаваў працу беларускага гісторыка і палітыка пачатку XX ст. Мітрафана Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі», якая была своеасаблівым маніфестам Беларускай дзяржавы. Аднак у сярэдзіне 90-ых гадоў пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнкі ў нацыянальнай палітыцы кіраўніцтва рэспублікі адбыўся прыкметны паварот. Ён праявіўся ў спробе вярнуць з небыцця палітыку русіфікацыі і саветызацыі насельніцтва, у адмове ад умацавання дзяржаўнага суверэнітэту. Пачалі стварацца перашкоды ў правядзенні культурна-асветніцкай і грамадскай дзейнасці нацыянальных суполак Беларусі, у т.л. і польскай. Але цалкам пераламіць тэндэнцыю нацыянальна-культурнага Адраджэння народаў Беларусі ўлады не здолелі. Пра гэта сведчаць вынікі перапісу 1999 г.

Перапіс паказаў, што ў рэспубліцы пражывае болей за 396 тыс. палякаў (3,9%). Варта адзначыць прыкметны рост кольскасці палякаў, якія лічаць роднай мову сваёй нацыянальнасці – 16,5%. Пры гэтым 57,6% польскага насельніцтва заявілі, што звычайна размаўляюць па-беларуску. Такім чынам, палякі Беларусі аказаліся самым беларускамоўным народам краіны. Колькасць беларусаў, якія звычайна размаўляюць па-беларуску склала 41,3%). Дадзеныя перапісу 1999 г. па колькасці палякаў выклікалі здзіўленне сярод польскіх навукоўцаў. Дэмографы Польшчы ў сваіх ацэнках колькасці палякаў у БССР выходзілі з таго, што «польскія» паказчыкі практычна ўсіх савецкіх перапісаў былі фальсіфікаваныя. Улады БССР, якія паслядоўна праводзілі курс на русіфікацыю мясцовага насельніцтва, былі зацікаўлены ў заніжэнні колькасці палякаў, літоўцаў, татараў і інш. Актыўная грамадска-палітычная і культурная дзейнасць Саюза палякаў Беларусі (былы старшыня Тадэвуш Гавін), ягоная падтрымка намаганняў беларускай апазіцыі па дэмакратызацыі краіны, адраджэнне рэлігійнага жыцця каталіцкага касцёла і інш. яшчэ больш пераконвалі ў заніжэнні савецкіх статыстычных дадзеных, якія датычылі польскай грамадскасці. Але вынікі перапісу 1999 г. гэтага не пацвердзілі. Праўда, нельга з абсалютнай упэўненасцю сцвярджаць, што ў 1999 г. не было фальсіфікацыі, і вызначэнне нацыянальнасці залежыла толькі ад волі чалавека.

Сучаснае становішча польскай грамадскасці ў краіне, дзе адсутнічаюць эканамічныя і палітычныя ўмовы для развіцця польскай культуры і ўздыму матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва, не спрыяе пашырэнню сярод мясцовых палякаў беларускага патрыятызму. Яшчэ больш не спрыяе гэтаму знешнепалітычны курс на дзяржаўную інтэграцыю з Расіяй. У той жа час адвочныя эканамічныя, міжнародныя і культурныя поспехі Польскай рэспублікі ўмацоўваюць «варшаўскі вектар» сімпатый польскай грамадскасці Беларусі. Ізноў яна апынулася перад дылемай арыентацыі на Менск або на Варшаву. Вынікі польскага выбару могуць даволі істотна паўплываць на палітычную і культурную сітуацыю ў Беларусі.

Алесь СМАЛЯНЧУК, гісторык (Біржа Інф.)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++



## Пра Міколу Равенскага

**Алена Арэшка** (Р.Р.)

5-га сьнежня споўнілася 115 год з дня народзінаў кампазытара Міколы Равенскага, які ў 1947 годзе. напісаў да словаў паэткі Натальлі Арсеньневай непаўторную музыку, стварыўшы "Магутны Божа" -- велічны духоўны гімн беларускага народу. І якіх прэтэнзіяў ні мелі б на гэты статус іншыя музычныя творы, -- яго назаўжды здабыў гімн Равенскага.

Лёс гэтага твору непарыўна зьвязаны з разьвіцьцём беларускай нацыянальнай ідэі. І, магчыма, толькі тады, калі "Магутны Божа" загучыць паўсюль у нашай краіне, на ўсіх яе дзяржаўных урачыстасьцях і сьвятах, мы атрымаем праведны знак: можна не хваляваца за будучыню нацыі.

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялізных сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй ціхай і ветлай
Рассып праменьне Свае хвалы...

Галоўны твор Равенскага гэтак альбо інакш знаёмы шмат каму. А вось імя аўтара, а тым больш ягоны лёс, вядомыя мала. Зразумела чаму: доўгія гады імя й творчасьць Равенскага замоўчваліся ў савецкай Беларусі, бо капмпазытара прылічылі да "калябарацыяністаў". Справа ж у тым, што пад час вайны, у акупаваным Менску, ён граў на скрыпачцы ў аркестры опэрнага тэатру, а потым у родным Ігумені кіраваў харамі й драматычным гуртком.

Да таго ж, засьцерагаючыся аказацца вязьнем сталінскіх лягероў, у 1944 г. зьехаў - спачатку ў Нямеччыну, а потым у Бэльгію, у горад Лювэн. І яшчэ: цягам усяго жыцьця - і на Бацькаўшчыне, і на эміграцыі - пісаў музыку да "няправільных" вершаў, з савецка-расейскае пазыцыі. Да прыкладу, да знакамітае "Пагоні" Максіма Багдановіча, якую выконваў беларускі студэнцкі хор зь Лювэну.

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Ўспомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях...

Мікола Равенскі нарадзіўся ў 1886 г. у маёнтку Капланцы Ігуменскага павету Менскай губэрні. Маючы ад прыроды вялікія здольнасьці, ад пяцёх год ён сьпяваў у царкоўным хоры, а ў 1895 г. быў прыняты ў Менскі архірэйскі хор на поўнае ўтрыманьне й бясплатную навуку. У 1913-1915 гг. Равенскі выяжджае вучыцца на дырыгенцкія курсы ў Маскву й Пецярбург. Па заканчэньні курсаў працуе нейкі час рэгентам, у тым ліку, у Навагрудку.

У Менск ён трапляе напачатку 1919 г. Кіруе хорам пры Беларускім рабочым клюбе, працуе хормайстрам БДТ - цяперашняга Купалаўскага тэатру, а ў 1921 г. бярэ ўдзел у фальклёрнай экспэдыцыі па Случчыне, арганізаванай Інбелкультам.

Менскае выдавецтва "Адраджэньне" ў 1922 г. выпускае першы "Зборнік песень з нотамі" Равенскага. Пад нумарам 25 у сьпеўніку значыцца песьня на словы Канстанцыі Буйло "Люблю наш край, старонку гэту", якую ўвесь час падавалі й падаюць дагэтуль за народную. Народныя песьні Равенскі таксама зьбіраў. Прыгожа апрацаваныя, дзякуючы яму, тыя песьні захаваліся "на слыху" й да сёньня.

У 1923-1930 гг. спадар Равенскі ізноў вучыцца ў Маскве, бо сваіх вышэйшых музычных установаў Беларусь тады ня мела. Жыў Мікола Равенскі на Малой Мікіцкай вуліцы ў будынку Прадстаўніцтва БССР. Хутка ўдалося завязаць шчырае сяброўства з паэтам Уладзімерам Дубоўкам, на чые вершы зьяўляецца некалькі песень: "О Беларусь, мая шыпшына", "Такая ноч", "Ліпнёвы гімн". Апошняя, пасьля арышту Дубоўкі ў 1930 г., была забаронена. Тады ж сканфіскавалі ў Равенскага й першую беларускую гістарычную опэру "Браніслава", лібрэта да якой таксама стварыў Дубоўка.

Гэткім нядобрым чынам творчы альянс распаўся. І на вялікі жаль. Бо мэлёдыі Равенскага цудоўна спалучаліся менавіта зь лірыкай Дубоўкі. Пасьля заканчэньня Маскоўскай кансэрваторыі ў 1930 г. Мікола Равенскі вяртаецца ў Менск. Ён выкладае ў музычным тэхнікуме, у новазакладзенай Беларускай кансэрваторыі. Жыве, ці існуе, з прадчуваньнем хуткае расправы. У 1938 г. арыштоўваюць і расстрэльваюць старэйшага брата Антона, вясковага настаўніка, потым стрыечнага брата Аляксандра. У 1938 г. Равенскага выключаюць з Саюзу кампазытараў. Пры сустрэчы некаторыя са знаёмых асьцярожліва яго абыходзяць, нібы не прыкмячаюць.

Але пачалася вайна. У акупаваным Менску, потым у родным Ігумене, Равенскі шмат працуе: піша апэрэту "Залёты" на Дуніна-Марцінкевіча (між іншым, першую беларускую апэрэту, якая, да жалю, не захавалася), стварае патрыятычныя песьні.

Ды наступ "бальшавіцкага вызваленьня" з прадказальнымі адносінамі ўладаў да такіх, як Равенскі, змушае яго пакінуць Беларусь. Да 1950 г. ён знаходзіцца ў лягерох для перамешчаных асобаў - у Нямеччыне, у Рэгенсбургу, Остэргофэне, Розэнгайме... У Рэгенсбургу, далёка ад Радзімы, - нараджаецца моцны й узьнёслы "Магутны Божа". Ад пакуты й тугі апантанага Равенскага заўсёды ратавала праца: дзе б ён ні апынаўся, паўсюль ствараў ансамблі, кіраваў сьвецкімі й царкоўнымі харамі, выступаў з канцэртамі.

У 1950 г. Міколу Равенскага запрашаюць у бэльгійскі Лювэн, дзе ў мясцовым унівэрсытэце студыявалі трыццаць маладых беларусаў. Апошнія гады жыцьця кампазытара зьвязаны са студэнцкім і царкоўным харамі ў Лювэне. І можна толькі зьдзіўляцца, як з выпадковых людзей немалады ўжо й безнадзейна хворы чалавек склаў выдатны ансамбль, запісы якога пазьней выдаваліся ў Бэльгіі, Нямеччыне, ЗША й Канадзе. Папулярнасьць хору сягнула далёка за межы Бэльгіі, і беларускую песьню слухалі ў Парыжы й Лёндане.

3 сакавіка 1953 г. Міколы Равенскага ня стала. Пахавалі яго ў Лювэне. А ў пакоі на працоўным стале застаўся лісток календара, дзе рукою кампазытара зроблены апошні малюнак: пасярод накрэсленых альфы й амэгі - цьвёрда выпісанае слова "Беларусь". Нашмат пазьней дачка кампазытара, Вольга Аляксеенка, будзе сьпяваць песьні Равенскага, дазнаўшыся ўжо бяз бацькі пра ягоныя творчасьць і шлях. Сымбалічным цяпер выглядае выкананьне ёю твору "Мой родны кут" на словы Якуба Коласа.

Вясна, вясна! Не для мяне ты!
Ня я, табою абагрэты,
Прыход твой радасна спаткаю, -
Цябе на век, вясна, хаваю.

Імя й творчасьць кампазытара, песьні якога сталі "народнымі", усё ж такі немагчыма было схаваць у цямніцы. З канца 1980-х пачынаюць выконваць Равенскага й дзяржаўныя калектывы. "Магутны Божа" загучаў у беларускіх касьцёлах, нават па радыё... Але гэтак жа, як Забэйда-Суміцкі й Пётра Конюх, застаўся Равенскі зь пячаткаю "неправільнага" музыкі, непатрэбнага й нават шкоднага дэнацыялізаванай "эрбэ".

Не дзяржава, але грамадзкія арганізацыі парупіліся нарэшце сабраць і выдаць запісы твораў Міколы Равенскага. 20 сьнежня ў кінатэатры "Зьмена" ў 18.30 адбудзецца прэзэнтацыя кампакт-дыску, што выйшаў у сэрыі "Беларускі Музычны Архіў", які ўлучае творы самога кампазытара й сьпевы лювэйскага хору, кіраўніком якога ён быў. Акрамя прэзэнтацыі дыску, фрагмэнты зь якога выкарыстаны ў сёньняшняй праграме, на вечарыне памяці забытага й слыннага творцы будзе дэманстравацца дакумэнтальная стужка "Успамін пра Міколу Равенскага". Запрошана да ўдзелу й дачка Равенскага - сьпявачка Вольга Аляксеенка. А мы паклонімся патрыёту й творцу малітваю.

Магутны Божа!
Дай спору ў працы будзённай, шэрай,
На хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць – дай...

*******************************************

# Беларускамоўных школаў стане больш?..

К. МАНУЙЛА (Наша Сваб.)

Месца беларускай мовы ў сістэме адукацыі – і ў сярэдняй школе, і ў вышэйшай — па-ранейшаму застаецца падчаркавым. Як паведамілі ва ўправе агульнай сярэдняй адукацыі міністэрства адукацыі Беларусі, у гэтым навучальным годзе выкладанне прадметаў па-беларуску вядзецца ў 2.773 школах з 4.506, якія ёсць у краіне. Здаецца, што захоўваецца парытэт паміж прысутнасцю ў школах рускай і беларускай моваў. Насамрэч гэта ўсё не так. Большасць беларускамоўных школаў знаходзіцца ў сельскай мясцовасці, а насельніцтва ў нас болей у гарадах, вось і выходзіць, што тых, каго навучаюць беларускай мовай, — толькі 20% ад усіх вучняў.

У беларускіх гарадах і гарадках па-беларуску вядуць навучанне ўсяго 49 школ. Найбольш беларускамоўных сярэдніх навучальных установаў у Мінскай вобласці – 22, на Гродзеншчыне – 9, на Віцебшчыне – 5, на Гомельшчыне і ў Мінску – па 4, на Брэстчыне – усяго 2 беларускамоўныя школы, а ў Магілёўскай вобласці – наагул толькі 1. У 1990 годзе па ўсёй краіне ў гарадах было толькі 5 школ, але ў хвалі беларусізацыі ўжо ў 1994-95 навучальным годзе ў больш як палове пачатковых класаў навучанне пачалося на беларускай, тады адзіна дзяржаўнай мове. Адкат адбыўся пасля рэферэндуму, які замацаваў у Беларусі білінгвізм.

Відаць, нават уладам стала няёмка ад тае дыскрымінацыі беларускай мовы, якую ён прынёс. Улетку 2001 году ў міністэрстве адукацыі распрацавалі праграму дадатковых захадаў па пашырэнні ўжывання беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Паводле яе, ужо з наступнага навучальнага году працэнт беларускамоўных школ пачне расці. Такія школы мусяць з'явіцца, а дакладней, перапрафіляваца на беларускамоўнае навучанне ў кожным раёне Беларусі і ў кожным мікраёне буйных гарадоў. Такім чынам, бліжэйшымі гадамі ў Беларусі паболее як мінімум на сотню беларускамоўных школ. Тое самае тычыцца і дзіцячых дашкольных установаў і некалькіх ВНУ.

Што да кадраў для беларускамоўных школ, то ва ўправе агульнай сярэдняй адукацыі мінадукацыі лічаць, што праблемаў з іх нястачай быць не павінна. Пры гэтым, як паведамілі ў міністэрстве, ніякіх заахвочвальных захадаў для беларускамоўнага выкладання ў выглядзе заробкавых надбавак, як тое было ў 90-х гадах, рабіцца не будзе.

* * *

**Гэта што? Чарговая хлусьня, ці нейкая праўда...**

*******************************************

# У Мінску міжнародны сімпозіум філолагаў

У праўленні Саюза беларускіх пісьменнікаў у Мінску адбылося чарговае паседжанне аргкамітэту па падрыхтоўцы міжнароднага сімпозіума «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі».

Вырашана, што сустрэча вучоных адбудзецца ў сталічным Доме літаратара 9-10 ліпеня 2002 года. Мяркуецца, што нароўні са спецыялістамі і дзеячамі нацыянальных культур многіх краін свету ў сімпозіуме прыме ўдзел генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каісіра Мацуура.

Сярод праблем, якія будуць разгледжаны на сустрэчы, – рэалізацыя правоў чалавека на нацыянальную мову і культуру, вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі, а таксама заканадаўчы аспект развіцця нацыянальных моў.

Старшыня нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Генадзь Счасны прапанаваў накіраваць запрашэнні для ўдзелу ў сімпозіуме вядомым вучоным-філолагам. «Для нас асабліва важны вопыт Бельгіі, Ірландыі, Славакіі, Славеніі і Уэльса (Вялікабрытанія), дзе народы змаглі захаваць і абараніць свае нацыянальныя мовы», – падкрэсліў Счасны.

Доктар гісторыі Леанід Лыч прапанаваў удзельнікам сімпозіума азнаёміцца з сітуацыяй з нацыянальнымі мовамі ў рэгіёнах Расіі. «Над беларускай мовай навіс дамоклаў меч знішчэння. Я думаю, што беларусам не ўсё роўна, які лёс чакае іх родную мову ва ўмовах будучага саюзу з Расіяй», – сказаў Лыч.

Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс прапанаваў падчас семінара ўвекавечыць памяць ураджэнца Мінску, вядомага дзеяча сусветнай культуры Ежы Гедройца. На будынку сталічнага касцёла святой Тройцы, дзе быў хрышчоны Ежы Гедройц, вучоны прапанаваў устанавіць мемарыяльную дошку.

Камэнтуючы для БелаПАН вынікі паседжання, старшыня грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алег Трусаў адзначыў, што ініцыятарам акцыі выступіла ТБМ. «Нашу прапанову падтрымалі Саюз беларускіх пісьменнікаў, міністэрствы інфармацыі, адукацыі і культуры, нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА, Беларускі дзяржуніверсітэт, Беларускі дзяржпедуніверсітэт імя Максіма Танка, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ды іншыя.

=======================================

# «БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА»

Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», разам з іншымі грамадзкімі арганізацыямі, заплянавала зьдзейсьніць новы праект па кантактах з беларусамі замежжа.

Заплянавана стварыць базу даных беларускіх грамадзкіх арганізацый замежжа, адмысловы сайт у Інтэрнэт, які б асьвятляў іх дзейнасьць, выдаваць штомесячны бюлетэнь «Беларусы замежжа».

=======================================

# ПАМЁР КСЁНДЗ УЛАДЗІСЛАЎ ЧАРНЯЎСКІ

22 сьнежня ў Менску на 86-ым годзе жыцьця памёр вядомы беларускі каталіцкі сьвятар Уладзіслаў Чарняўскі.

Ксёндз Чарняўскі ўсе гады савецкай акупацыі служыў у касьцёле ў мястэчку Вішнева па-беларуску. У гэтым годзе, з-за хваробы, ён пераехаў у Менск, жыў у плябані касьцёла сьв. Сымона й сьв. Алены.

Беларускі сьвятар-патрыёт быў пахаваны ў панядзелак, 24 сьнежня, у Вішнева.

# Трагічны кансэрватызм вёскі

...Падчас выбарчай кампаніі 90-га году мне ў якасьці даверанай асобы кандыдата давялося пахадзіць па вёсках Сьветлагорскага раёну. Я быў шакаваны колькасьцю непісьменных жанчын, страшэнна нізкім узроўнем жыцьця людзей сталага веку. Я быў шакаваны прымітыўнасьцю іхнага жытла, прымітыўнасьцю і наіўнасьцю разважаньняў, фаталізмам і аскетызмам. Урэзалася ў памяць скарга пажылой жанчыны: "Жыць добра, толькі цукру малавата" (тады прадавалі толькі кіляграм на чалавека ў месяц).

Ва ўсім сьвеце вёска – асяродак кансэрватызму. Кансэрватызм – далёка не найгоршая рыса характару. У бяду ён ператвараецца тады, калі не прымае аніякае альтэрнатывы. Камуністычная сыстэма паразытавала на сялянскім кансэрватызьме. Яна не прапанoўвала аніякіх пэрспэктываў вёсцы, але спраўна забясьпечвала зьведзеных да стану прыгонных сялян палівам, угнаеньнямі, тэхнікай і гарэлкай. Сёньня сяляне з сумам згадваюць сытыя брэжнеўскія часы: прадказальнасьць будучыні, цьвёрдыя мінімальныя сацыяльныя гарантыі. Тое, што адукаванаму чалавеку падаецца стагнацыяй і ідыятызмам, селянін лічыць вяршыняй прагрэсу.

Бальшавікі абрабавалі вёску ня толькі матэрыяльна, але й духоўна. Адукаваны селянін ня быў патрэбным нікому. Зірніце, якія задачы ставіліся паднявольнай вясковай адукацыі ў 70–80-я: пакінуць як мага болей выпускнікоў у калгасе. Таму цяперашні пласт актыўных работнікаў сельскай гаспадаркі мае ў сваёй большыні сярэднюю адукацыю – ідэалягізаваную дагматычную адукацыю трэцяга гатунку. Насамрэч гэта мала-адукаваны маларазьвіты пласт грамадзтва. Мала-разьвіты – зусім ня значыць дурны. Маларазьвіты значыць недасьведчаны, непаінфармаваны, функцыя-нальна малапісьменны. Хто зь іх можа расказаць гісторыю свайго народу? Хто лягічна раскажа гісторыю свайго жыцьця? Хто раскажа пра законы сваёй краіны?

Ня варта забывацца, што менавіта ў 60–70-я пад вёску была закладзеная міна ў выглядзе тэорыі "пэрспэк-тыўных" і "непэрспэктыўных" вёсак. Ці ня ўся этнічная Беларусь, наша дарагая Радзіма, была абвешчаная "непэрспэктыўнай". Мо таму і пакутуем у прота-дзяржаве з псэўдапрэзыдэнтам, псэўдапарлямэнтам, псэўдажыцьцём?

У адрозьненьне ад селяніна дыктатарскай Італіі ці Гішпаніі, дзе шпарка ацанілі каштоўнасьці дэмакратыі, бо мелі ўласнасьць, наш селянін ня меў і ня мае нічога. Нават каня нельга было трымаць! І голая дэмакратыя яму нічога не дае. Былая сыстэма развальваецца на вачох. Яна кепская, але звычайная і прадказальная, яна не палохае. Палохае невядомае, тое, пра што няма інфармацыі. Наш вясковец адчувае сябе ў безапоравай прасторы.

Існы рэжым стварае бачнасьць нейкай апоры. Лукашэнка паразытуе на самых адсталых і рэтраградных пачуцьцях сялян. Але закон эвалюцыі сьведчыць: хто не зьмяняецца – той гіне. Ідыёцкая сельгассыстэма 70-гадовай даўніны даўно сябе зжыла. Рэжым гэта ведае, але памяняць эканамічныя адносіны ў вёсцы ня можа: зьнікае ягоная люмпэнізаваная сацыяльная база. Зрэшты, яна зьнікне і насуперак волі рэжыму.

Самы бедны, цёмны, самы зьнявечаны пласт беларускага народу сыходзіць з гэтага жыцьця. Дзяржаўна-алькагалізаваны пласт сельгасьлюмпэнаў выдыхае з гарэлкі: частка найбольш працаздольнага мужчынскага насельніцтва ператварылася ў дэкляса-ваных маргіналаў, папросту ў жабракоў. Яны не ідуць у калгас з заробкам 4–14 даляраў у месяц, а перабіваюцца выпадковай працай уаднавяскоўцаў за пляшку, крадуць. (Зрэшты, наконт крадзяжоў у калгасе – гэта яшчэ як паглядзець. Катэгорыя "крадзеж" у дачыненьні да калгасных адносінаў яўна недарэчная. Ёсьць простае стыхійнае пераразьмеркаваньне прадуктаў працы. Хіба не крадзеж дзяржаўнае вымагальніцтва сельгас-прадуктаў па сьмешных цэнах? Хіба не крадзеж сялянскай працы – мізэрна нізкая аплата?)

Вымалёўваецца і новы пласт хітрых цягавітых мужыкоў, якія, дасьць бог, стануць новай вясковай генэрацыяй. Яны даўноназапасілі сабе праўдамі-няпраўдамі трактароў, сельгаспрыладаў, яны займелі законна-незаконна пару гектараў зямлі і пацыху гаруюць на ёй. Ім патрэбна тое, што і кожнаму лібэралу, – *law & order*. Яны не спадзяюцца на калгасны лад, і Лукашэнка для іх папросту пустабрэх. Яны не афішуюць сваіх поглядаў, але і не хаваюць іх.

Такім чынам, беларускі селянін сёньня жыве ў дзьвюх ці нават трох фармацыях – традыцыйнай, што ўжо зьнікае, камуністычнай і рынкавай. Паміж імі няма эвалюцыйнага пераходу. Таму селянін трымаецца за звыклае старое і дзеля гэтай фальшывай апоры гатовы ўспрыняць самую алягічную і несамавітую ідэю. Таму так лашчыць ягонае сэрца брэжнеўскі дастатак і цьвёрдае стаяньне на калгаснай зямлі, якое гарантуе Лукашэнка. Дарма што гэтая гарантыя давяла селяніна і ягоных дзяцей да галечы.

Дасьледаваньне вёскі дэмакратамі амаль не вядзецца. Апазыцыянэры на яе, як на Вандэю, махнулі рукой. Між тым вёска моцна ўплывае на горад, яна сілкуе дзяржаву самым неразьвітым і непатрыятычным чынавенствам, яе шэдэўры – забыты Дземянцей і Лукашэнка. Выслоўе апошняга пра Беларусь як пра вялікі калгас вельмі характэрнае. Не забудзем, што слова "калгас" ужываецца ў значэньні "бязладзьдзе", а "калгасьнік" – сынонім цёмнага бяспраўнага чалавека. Дарма што слоўнікі гэтага не падаюць.

Калі я еду па суседніх вёсках, мяне ўвесь час пытаюць пра "газэту". Раней я раздаваў дэмакратычны друк, цяпер нічога ня маю. Людзі хочуць пераменаў, але што ім прапануем мы?

Між тым за 10 месяцаў сёлета ў нашым *сельсавеце* нарадзілася *пяцёра* дзяцей і *памерлі 30* чалавек старэйшага веку. У тутэйшым калгасе на 275 работнікаў 1300 пэнсіянэраў. Дэмаграфія вёскі робіцца праблемай № 1.

Прыканцы заўважу, што любы немец, галяндзец ці гішпанец, абложаны ўладаю так, як беларускі мужык, жыў бы гэтак жа. Супраць грабежніцкай улады чалавек бясьсільны. А грамада ў безапоравай прасторы не ўзьнікае.

**Niccolo Insegnante-Contadino (Н.Н.)**

# Ды ніякія мы не эўрапейцы!

З геаграфічнага пункту гледжання мы -- еўрапейская дзяржава. Але гэта толькі калі ўлічваць наша месцазнаходжанне на карце. Калі ж паглядзець з іншых бакоў, дык ствараецца ўражанне, што, на жаль, дачыненне да еўрапейскасці мы калі і маем, то даволі аддаленае.

Мяркуйце самі. Мы ў асноўнай масе не вельмі якія патрыёты сваёй Бацькаўшчыны, бо нават не жадаем карыстацца роднай мовай. Хаця, прызнаёмся, і моваю суседняй дзяржавы таксама не валодаем як след. Дакладней, размаўляем на "трасянцы". Гэтым грашаць і дыктары тэлебачання, і настаўнікі школ, і выкладчыкі ВНУ, а што ўжо казаць пра ўвесь астатні люд...

Мы не беражом сваю зямлю, празмерна забруджваем навакольнае асяроддзе бытавымі адходамі вакол вёсак, дачных паселішчаў, дарог і лясных узлескаў. Хіба не дзікунства?

Не лепшым чынам выглядаем мы самі на вуліцах гарадоў і вёсак, у транспарце. Паўсюль смецце, акуркі, абгорткі ад цукерак, бляшанкі, бутэлькі і г.д. Кідаем, не задумваючыся, усё і дзе папала, хоць побач стаяць урны. Плюёмся, нібы тыя вярблюды, лаемся брудна і груба. Брыдка глядзець на ўсё гэта. Ніякай культуры, нават намёку ад яе. Між тым адукацыйны ўзровень нашага насельніцтва фармальна адносна высокі -- у параўнанні з іншымі народамі і краінамі. Ды што толку? Сорамна перад прыстойнымі людзьмі.

Чаму мы замоўчваем сваю гісторыю, не ўшаноўваем памяць сваіх слынных продкаў у найменнях вуліц, вайсковых вучэльняў, цэркваў і інш.? Зусім не зразумела, чаму, напрыклад, царкву, якая будуецца ў Мар'інай Горцы, Мітрапаліт Філарэт назваў імем А.Неўскага? Што, у нас ніколі не было патрыётаў-беларусаў, заслужыўшы такую пашану?

Задумайцеся над гэтым, дарагія суграмадзяне! Інакш дарога ў Еўропу для нас будзе закрыта і надалей.

Андрэй ПРОХАРЧЫК.

# Беларускамоўны малітоўнік

Напачатку наступнага году мінскае выдавецтва «Технология» плануе выдаць новы грэцка-каталіцкі малітоўнік айца Аляксандра Надсана «Госпаду памолімся» на беларускай мове.

Над складаннем гэтага малітоўніка памерам 800 старонак апостальскі візітатар для беларусаў замежжа айцец Аляксандр Надсан працаваў шмат гадоў. Ён мяркуе, што новы малітоўнік, які прыдатны для асабістага карыстання і царкоўных багаслужбаў, забяспечыць элементарныя духоўныя патрэбы беларускіх уніятаў напачатку XXI стагоддзя. У кнізе змешчаныя розныя малітвы, асобныя псалмы, акафісты і каноны, а таксама выбраныя тэксты галоўных службаў на царкоўныя святы. Для надання кнізе нацыянальнага характару айцец Надсан змясціў у ёй малітвы беларускіх святых ды аўтараў розных стагоддзяў – святога Кірылы Тураўскага і асветніка Францыска Скарыны, айца Льва Гарошкі і айца Язэпа Германовіча, а таксама «Магутны Божа» Наталлі Арсеньевай.

Першы беларускі малітоўнік – «Малая подорожная книжица» – быў выдадзены Скарынам у 1522 годзе.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі найбольш актыўна ў гэтым кірунку працуе рымска-каталіцкая царква, якая за 10 апошніх гадоў выпусціла каля 20 беларускамоўных малітоўнікаў для людзей рознага ўзросту і заняткаў. Для параўнання: Беларуская праваслаўная царква за гэты самы час выдала толькі адзін малітоўнік на беларускай мове.

# Расія прыняла небяспечны для Беларусі закон

**На думку дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Івана Пашкевіча, ухвалены Федэральным сходам Расійскай Федэрацыі закон "Аб парадку прыняцця ў РФ і стварэння ў яе складзе новага суб'екта федэрацыі" "выклікае крайнюю занепакоенасць".**

Дадзены законапраект, які носіць канстытуцыйны характар, быў прыняты верхняй палатай расійскага парламента 5 снежня. Ён вызначае, што прыняцце новага суб'екта ў склад Расіі ўстанаўліваецца працэдурай, якая прадугледжвае змяненне саставу суб'ектаў федэрацыі ў выніку далучэння да Расіі замежнай дзяржавы ці яе часткі. Пры гэтым замежнай дзяржаве прадастаўляецца статус суб'екта федэрацыі. Таксама не зьяўляецца абавязковым наяўнасць агульнай мяжы Расіі з гэтай замежнай дзяржавай. Мяркуецца, што прыняцце ў РФ у якасці новага суб'екта замежнай дзяржавы ці яе часткі ажыццяўляецца па ўзаемнай згодзе Расіі і гэтай замежнай дзяржавы ў адпаведнасці з міжнародным дагаворам.

Апрача таго, сказаў І. Пашкевіч, зараз Расія паставіла Беларусі ўмову прывесці сваё заканадаўства ў адпаведнасць з расійскім. "І калі на гэтым фоне прымаецца дадзены дакумент, то гэта выклікае не проста занепакоенасць, а трывогу: а ці не прыняты гэты законапраект у дачыненні да Беларусі", -- сказаў дэпутат. Паводле яго слоў, калі ўз'яднанне Беларусі і Расіі адбудзецца на падставе гэтага закона, то Расійскай Федэрацыі нават не спатрэбіцца праводзіць рэферэндум па гэтым пытанні. (Даслана з Берасьця)

# Беларусы! Трэба неадкладна ратаваць Беларусь!

**10 гадоў таму галоўная плошча Менску стала называцца плошчай Незалежнасьці.**

Шкада, але за гэты час Беларусь так і не стала па-сапраўднаму БЕЛАРУСКАЙ дзяржавай. Русіфікацыя можа прывесьці нацыю да поўнай згубы. Зганяецца з Беларусі дух Скарыны, дух Купалы, Коласа, Багдановіча...

Пра якую НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ у такім выпадку можна гаварыць?..

Пара дзейнічаць! Пара гуртавацца! Пара рых-таваць самаабарону!...

Беларусь Мусіць Жыць!!!

(Надаслана з Беларусі...)

# Што хвалюе...

**Чаму маўчыць аргкамітэт Усебеларускага зьезду за незалежнасць?**

Бадай, ні адна з падзей апошніх гадоў не рабіла на мяне такога моцнага ўражання, як Усебеларускі з'езд за незалежнасць. Я не быў яго дэлегатам, але слухаў усе выступы спачатку па дынаміку ў фае, а потым і непасрэдна ў зале. Ніколі не забыць кульмінацыйны момант -- прыняцце Акта незалежнасці Беларусі. Было такое адчуванне, што за вольную Бацькаўшчыну галасуюць усе нашы свядомыя грамадзяне.

Памятаю, як напрыканцы форуму хтосьці з месца выказаў меркаванне пра неабходнасць стварэння нейкай структуры накшталт камітэта ці нават урада нацыя-нальнага ўратавання. Старшынствуючы Радзім Гарэцкі адказаў, што гэта рабіць яшчэ рана. Аргкамітэт, мяркую, мусіць уважліва сачыць за развіццём падзеі і, калі ўзнікне патрэба, дэлегаты з'езда зноў збяруцца, каб прыняць адпаведнае рашэнне. На галасаванне гэта пытанне не ставілася, але было бачна: прысутныя пагадзіліся з такім падыходам да адказнай справы.

З таго часу мінула амаль паўтара года. Набірае тэмпы аб'яднанне з Расіяй у адзіную дзяржаву, што прывядзе да страты Беларуссю незалежнасці. Але нічога не чуваць пра рэакцыю на гэта аргкамітэта з'езда як калектыўнага органа (асобныя яго сябры, у тым ліку сустаршыні, не тояць сваю грамадзянскую пазіцыю). Невядома, ці збіраліся камітэтчыкі разам, каб абмер-каваць беларуска-расійскія стасункі на этапе пась-пешлівага раскручвання "саюзнага" махавіка, уда-кладніць канкрэтныя шляхі згуртавання людзей вакол ідэй Акта незалежнасці. Можа, пара падумаць і пра скліканне другой сесіі ўсенароднага форуму?

Генадзь ЛАГУНОВІЧ, падпалкоўнік у адстаўцы.

 



## Дарагія Сябры і Прыхільнікі!

Ніжэй друкуем гадавы **СЬПІС** нашых сброў, прыхільнікаў і людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш — выдатна і ахвярна дапамаглі нашай агульнай справе...

**Усім Вам Вялікае Дзякуй!**

**Усе ахвяраваньні падаюцца ў пераліку на амэрыканскія даляры.**

У **2001-м** годзе мы атрымалі наступныя ахвяраваньні на публікацыю нашае газэты:

### I.
### Ахвяры $200.oo, ці больш даляраў...

| | |
|---|---|
| **1. А. Р.** (*Англія*) | $1000.oo |
| і замiж кветак на магілу Расьціслава Завістовіча | $384.oo |
| **2. Натальля і Анатоль Лук'янчык** | $500.oo |
| **3. Ірэна і Жорж Сьмірноў** | $500.oo |
| **4. Крэчэўскі Фундацыя, Інк.** | $500.oo |
| **5. Др. Мацьвей В. Смаршчок** | $430.oo |
| **6. Тацяна і Др. Міхась Жылік** | $300.oo |
| **7. Міхась Лужынскі** (*Аўстралія*) | $262.oo |
| **8. Надзя і др. Янка Запруднік** | $250.oo |
| **9. а. Аляксандр Яноўскі** (*Канада*) | $250.oo |
| **10. Віталі Кажан** | $215.oo |
| **11. Др. Уладзімір Набагез** | $200.oo |
| **12. Валя і Мікола Сьнежка** | $200.oo |
| **13. Др. Язэп Сажыч** | $200.oo |
| **14. Уладзімір Ракуць** | $200.oo |

### II.
### Ахвяры $100.oo, ці больш даляраў...

| | |
|---|---|
| 1 Сыльвэстар Будкевіч (*Англія*) | $190.oo |
| 2 Кастусь Вайцяхоўскі | $175.oo |
| 3. Галіна Руднік (Нямеччына) | $160.oo |
| 4. Катарына Вініцкі | $150.oo |
| 5. Міхась Каленік | $150.oo |
| 6. Славік Шабовіч | $150.oo |
| 7. а. Вечаслаў Ільчук | $135.oo |
| 8. Юзэфа Найдзюк | $120.oo |
| 9. Уладзімір Пелеса | $120.oo |
| 10. Мікола Грэбень | $120.oo |
| 11. Аўген Груша (*Аўстралія*) | $120.oo |
| 12. М. Баяроўскі (*Англія*) | $110.oo |
| 13. Віктар Ліпскі (*Аўстралія*) | $105.oo |
| 14. Ніна Кіт | $100.oo |
| 15. Нікодэм Жызьнеўскі | $100.oo |
| 16. Др. Вітаўт Рамук | $100.oo |
| 17. Лявон Норык | $100.oo |
| 18. Кляра Пануцэвіч | $100.oo |
| 19. Пятро Касаты | $100.oo |
| 20. Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр у Саўт Рывэр | $100.oo |
| 21. Арсень Монід (*Канада*) | $100.oo |
| 22. Др. Юрка Кіпель | $100.oo |
| 23. Мікола Сагановіч | $100.oo |
| 24. В. М. | $100.oo |
| 25. Зоя Смаршчок (*Бельгія*) | $100.oo |
| 26. Лёнгіна Брылеўска | $100.oo |
| 27. Адольф Субота | $100.oo |
| 28. Якуб Сапежынскі | $100.oo |
| 39. Др. Александар Туркоўскі | $100.oo |

### III.
### Ахвяры $50.oo, ці больш даляраў...

| | |
|---|---|
| 1. Паўло Бурдзь (*Канада*) | $90.oo |
| 2. Жорж Наумчык | $90.oo |
| 3. Георг Арцюшэнка | $80.oo |
| 4. Кляра Кумэйша | $80.oo |
| 5. Ольга і Аўген Кабяко | $80.oo |
| 6. Фэдэральная Рада-БАА (*Аўстралія*) | $79.oo |
| 7. Сямён Дудар | $75.oo |
| 8. М. К. (*Канада*) | $75.oo |
| 9. Алла Орса-Романо | $75.oo |
| 10. Надзя Касмовіч-Міц.(*Нямеччына* | $75.oo |
| 11. Алена Сенько (*Англія*) | $71.oo |
| 12. Марыя Гаўрылюк (*Канада*) | $70.oo |
| 13. Янка Шымчык | $65.oo |
| 14. Валентына Яцэвіч | $60.oo |
| 15. Юрка Сажыч | $60.oo |
| 16. Аўген Кажан | $60.oo |
| 17. Юстын Ягоўдзік | $60.oo |
| 18. Тамара і Міхась Белямук | $60.oo |
| 19. Пятро Шыркоўскі (*Англія*) | $59.oo |
| 20. Міхась Раецкі (*Аўстралія*) | $56.oo |
| 21. Язэп Бабіцкі | $55.oo |
| 22. З. Сідлярэвіч (*Аўстралія*) | $54.oo |
| 23. Беларускі Цэнтральны Камітэт (*Аўстралія*) | $53.oo |
| 24. Юрка Касьцюкевіч | $50.oo |
| 25. Вольга Грыцук (*Канада*) | $50.oo |
| 26. Уладзімір Мандзік | $50.oo |
| 27. Ванда Махнач | $50.oo |
| 28. Мікола Абрамчык | $50.oo |
| 29. Мікола Касьцюк | $50.oo |
| 30. Лявон Салавей | $50.oo |
| 31. Жэня Дубяга | $50.oo |
| 32. Яніна Каханоўска | $50.oo |
| 33. Юлія Андрусышын | $50.oo |
| 34. Галіна Мароз | $50.oo |
| 35. Мікола Галоўка | $50.oo |
| 36. Пятро Пікулік | $50.oo |
| 37. Лявон Кавалёў | $50.oo |
| 38. Тацьцяна Кананчук | $50.oo |
| 39. Кастусь Маталыцкі | $50.oo |
| 40. Элізабэт Літаровіч | $50.oo |
| 41. Янка Азарко | $50.oo |
| 42. Кастусь Калоша | $50.oo |
| 43. Людміла Колін | $50.oo |
| 44. Багдан Паўк | $50.oo |
| 45. Сяргей Туравец | $50.oo |
| 46. Аўген Завістовіч | $50.oo |
| 47. Уладзіслаў Валадкевіч | $50.oo |
| 48. Моніка Банькоўска (*Швайцарыя*) | $50.oo |
| 49. Анна Брушкевіч | $50.oo |
| 50. Алекс Захаркевіч | $50.oo |
| 51. Анна Мерляк | $50.oo |
| 52. Ванкарэм Нікіфаровіч | $50.oo |
| 53. Зора і Вітаўт Кіпель | $50.oo |
| 54. Вольтэр Сітнік | $50.oo |
| 55. Марыя Кулагін | $50.oo |
| 56. Анатоль Тальянскі | $50.oo |
| 57. Элеонора Пітушка (*Канада*) | $50.oo |
| 58. Марат Клякоцкі | $50.oo |
| 59. Васіль Плескач | $50.oo |
| 60. Міхась Пашкевіч (*Канада*) | $50.oo |

### ІУ.
### Ахвяры $49.oo, ці менш даляраў...

| | |
|---|---|
| 1. М. Швэдзюк (*Англія*) | $42.oo |
| 2. В. Еўдакімаў (*Англія*) | $42.oo |
| 3. Ф. Зынгель (*Англія*) | $42.oo |
| 4. М. Залога (*Англія*) | $42.oo |
| 5. Марыя Мароз (*Англія*) | $42.oo |
| 6. С. Пяткевіч (*Англія*) | $42.oo |
| 7. Аляксандар Шастак | $40.oo |
| 8. Антоні Філістовіч | $40.oo |
| 9. Васіль Васіліў | $40.oo |
| 10. Паўло Алексы | $40.oo |
| 11. Васіль Богдан | $40.oo |
| 12. Мітр. Ізяслаў Бруцкі | $40.oo |
| 13. Міхась Бахар | $40.oo |
| 14. Міхась Сенько | $40.oo |
| 15. Антон Маркевіч (*Канада*) | $40.oo |
| 16. а. Максім Таўпека (*Канада*) | $35.oo |
| 17. Міхась Шабеко | $35.oo |
| 18. Лёля Міхалюк (*Англія*) | $35.oo |
| 19. М. Дзейко (*Англія*) | $35.oo |
| 20. Юрка Рапэцкі (Канада) | $30.oo |
| 21. Пятро Нягода | $30.oo |
| 22. Вольга Яськевіч | $30.oo |
| 23. Анатоль Кольбун | $30.oo |
| 24. Уладзімір Русак | $30.oo |
| 25. Міхась Калядка | $30.oo |
| 26. Барыс Данілюк | $30.oo |
| 27. Люба Корчык | $30.oo |
| 28. Васіль Шчэцька | $30.oo |
| 29. Аляксандра Воран | $30.oo |
| 30. Уладзімір Бельмач (*Канада*) | $30.oo |
| 31. Вольтэр Літаровіч | $30.oo |
| 32. Алесь Кузьміч | $30.oo |
| 33. Ірэна Аляксандар | $30.oo |
| 34. Ванда Мазуро | $30.oo |
| 35. Васіль Сергіевіч | $30.oo |
| 36. Мікола Кучура | $30.oo |
| 37. Надзя Барт (*Нямеччына*) | $30.oo |
| 38. Стывэн Махакей | $30.oo |
| 39. Т. Д. (*Англія*) | $28.oo |
| 40. Алег Шнэк (*Аўстралія*) | $27.oo |
| 41. Ф. Лашук (*Аўстралія*) | $27.oo |
| 42. Г. Шайпак (*Аўстралія*) | $27.oo |
| 43 Леў Стагановіч | $25.oo |
| 44. Валентына Ваксэліс | $25.oo |
| 45. Грэнт Валей Стэйт Унівэрсіты | $25.oo |
| 46. Галіна Крыштапава | $25.oo |
| 47. а. Эмідэўш Рыжы | $20.oo |
| 48 Юрка Ціпурка | $20.oo |
| 49. Алесь Міцкевіч | $20.oo |
| 50. Ліда Катовіч | $20.oo |
| 51. Янка Каваленка | $20.oo |
| 52. Павал Парфенаў (*Канада*) | $14.oo |
| 53. Эдвард Эпштэйн | $12.oo |
| 54. Паўло Гуз (*Аўстралія*) | $10.oo |
| 55. а. А. Грыцук (*Аўстралія*) | $10.oo |
| 56. С. Жукаў (*Аўстралія*) | $5.00 |
| 57. І. Юшчанка (Аўстралія) | $5.oo |
| 58. Янка Наваградзкі | $5.oo |

**Вось так выглядае фінансавая справаздача "Беларускага Дайджэсту". Шмат хто чытае нашу газэту "за дурніцу". Гэтую няўвязку будзем неяк старацца браць пад увагу.**

**Яшчэ раз шчыра дзякуем Усім нашым дабрадзеям і прыхільнікам... God bless You!**

**З вялікаю пашанаю, М. Прускі, —выдавец.**

---

# Саюз для жулікаў?

Сьпікер расейскай Дзярждумы Генадзь Селязьнёў лічыць, што 2002 год будзе гістарычным у пляне стварэньня саюзнай дзяржавы. Пра гэта ён заявіў на прэсавай канфэрэнцыі ў Маскве ў расейскім інфармацыйным агенцтве "Новости".

Ні для кога не сакрэт, што аб'яднаньне Беларусі з Расеяй мяркуецца зрабіць па сцэнары расейскіх камуністаў. Актыўнасьць "левых" найперш вызначаецца ў размовах і плянах, у якіх не праглядаецца аніякай рэальнай базы.

Пасьля нядаўняга беларуска-расейскага саміту ў Маскве расейскі сьпікер Генадзь Селязьнёў упэўнена даводзіў журналістам: 2002 год будзе "гістарычным" у пляне стварэньня саюзнай краіны. Ён паабяцаў прыкласьці "максымум намаганьняў", каб у наступным годзе быў прыняты канстытуцыйны акт саюзнай краіны й адбыліся выбары ў саюзны парлямэнт, які, са словаў Селязьнёва, "запрацуе з 2003 году". Расейскі сьпікер выказаў таксама ўпэўненасьць, што ў 2002 годзе будуць створаны наднацыянальныя органы, роля й функцыі якіх павінны быць уведзены ў расейскую канстытуцыю.

Генадзь Селязьнёў (бальшавік) лічыць, што цяпер адбываецца "прыцірка думак наконт таго, якой павінна быць саюзная краіна". Ён сьцьвярджае, што ў прэзыдэнтаў ёсьць палітычная воля да будаўніцтва саюзу, хаця "ў расейскім урадзе ёсьць скептыкі, якія лічаць: з гэтага саюзу не атрымаецца нічога добрага". Сьпікер мяркуе, што неабходна стварыць рабочую групу, якая будзе кантраляваць выкананьне рашэньняў саюзных органаў.

Г. Селязьнёў пахваліў за "саюзную" працу цэнтральныя банкі, міністэрствы замежных справаў, а таксама памежныя й ваенныя ведамствы абедзьвюх краінаў. Незадаволены сьпікер працай мытных камітэтаў, якія разыходзяцца ў пытаньнях мытнай палітыкі. З пэўнасьці спадара Селязьнёва, "у выканаўчых структурах Расеі адчуваецца, калі не сабатаж, то значнае тармажэньне".

Саюзныя дачыненьні не разьвіваюцца, бо ў эканамічным блёку расейскага ураду ёсьць шмат супрацiўнікаў саюзу. Са словаў дзяржаўнага сакратара саюзу Паўла Барадзіна, "гэтая сытуацыя зручная як расейскім, так і беларускім жулікам". Што да апазыцыі, то яна, на думку Селязьнёва, вядзе сябе адносна саюзу Беларусі й Расеі "стрымана й умерана".

=====================================

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...**
**Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

=====================

 

# Нам Пішуць...

## У Англіі ўшанавалі гадавіну Слуцкага збройнага чыну

Згуртаваньне Беларусаў у В. Брытаніі (ЗБВБ) 1-га сьнежня 2001 г. годна ўшанавала 81-ю гадавіну Слуцкага збройнага чыну.

а. А. Надсон з Лёнданскае парафіі Сьв. Пятра і Паўла адслужыў паніхіду за ўсіх тых, хто аддаў свае жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. У сваёй рэлігійна-патрыятычнай пропаведзі а. Надсон насьвятліў важнасьць гэтай гістарычнай падзеі, якая павінна шанавацца ўсім беларускім народам.

Афіцыйная частка ўрачыстасьці адбылася ў залі Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру пры царкве. Урачыстасьць адчыніла старшыня ЗБВБ сп-ня Л. Міхалюк, якая ад імя Згуртаваньня прывітала прысутных і навязала сваю думку да гэтай гадавіны Слуцкага чыну. Хвілінай цішыні прысутныя ўшанавалі памяць усіх змагароў, якія аддалі свае жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі.

Прывітаньне ад старшыні Рады БНР сп-ні І. Сурвіллы прачытаў П. Шаўцоў.

Зьмястоўны і цікавы рэфэрат пра Слуцкі збройны чын прачытаў студэнт Кэмбрыджскага ўнівэрсытэту спадар М. Пачкаеў, а сп-ня Вера Рыч, ганаровая сяброўка ЗБВБ, прачытала свой верш па-ангельску — «On the Anniversary of the Slucak Uprising».

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."

Сяброўкі ЗБВБ, як заўсёды, падрыхтавалі прынагодны пачастунак, у часе якога было прыемна спаткацць новых і старых сяброў... Аднак час праляцеў вельмі хутка і ўжо трэба было разьяджацца ў розныя куткі Англіі.

*Сыльвэстар Будкевіч*, Лёндан

**Шаноўны Спадар Прускі!**

Дазвольце праз вашу газэту павіншаваць усю беларускую грамаду ў Злучаных Штатах Амэрыкі з Калядамі і надыходзячым Новым Годам.

Зычым усім моцнага здароўя, посьпехаў, і каб збыліся мары і надзеі ў пажаданьнях лепшай будучыні нашай любай Бацькаўшчыне-Беларусі.

Жыве Беларусь!

Хай жыве і квітнее вечна.

*Таіса Місчанка* ад імя Грамады беларускай культуры ім. Францішка Скарыны ў Маскве.



На здымку зьлева направа: Сп.Сп. А. Шнэк, Г. Шайпак, Аўген Груша, С Жук, П. Гуз, М. Тарашкевіч і А. Грыцук. (Мэлбурн, Аўстралія)

## Урачыстае Сьвяткаваньне "Слуцкага Чыну" ў Мэльбурне, Аўстралія

У нядзелю 2-га сьнежня 2001 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, супольна з Парафіяй БАПЦ — Сьвятых Віленскіх Мучаньнікаў адзначылі ўгодкі "Слуцкага Чыну". Пасьля літургіі айцец А. Кулакоўскі адслужыў паніхіду па загінуўшых змагарах Слуцкага змаганьня. У часе паніхіды сябры з розных арганізацыяў сталі з пахіленымі Бел-чырвона-белымі сьцягамі і сьцягам Аўстраліі ў гонар нашых герояў, якія аддалі свае жыцьцё, каб жыла Беларусь.

Пасьля паніхіды ў прыцаркоўнай залі адбылася афіцыйная частка сьвяткаваньня. Старшыня БЦКВ спадар Паўла Гуз прывітаў усіх прысутных і папрасіў усх устаць ды прасьпяваць "Сьпі пад курганам герояў" а затым прачытаў прынагодныя дасланыя прывітаньні.

Сп. Алег Шнэк выступіў з цікавым дакладам на тэму дня.

Мастацкая частка сьвяткаваньня складалася з: хор "Каліна" прасьпяваў некалькі беларускіх песень, Сп-р Слаўка Слаўка Жук прадэклямаваў верш "Да роднай Беларусі", які ён напісаў сам з нагоды сьвяткаваньня. Спадар Аўген Груша прадэклямаваў верш "Дзе нашых продкаў слава", які адпавядаў тэме сьвяткаваньня. І ўжо на заканчэньне афіцыйнай часткі ўсе разам прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". У часе традыцыйнага суполь пачастунку Спадар П. Гуз падзякаваў усім за прысутнасьць.

*А. Шнэк*



## Беларускі Сацыяльны Клюб у Мэлбурне

У чацьвер 6-га сьнежня 2001 г. адбылася апошняя зборка Беларускага сацыяльнага Клюбу ў Мэлбурні перад Навагоднімі і Каляднымі сьвятамі.

Напрацягу года Клюб зьбіраецца што другі чацьвер у прыцаркоўнай залі БАПЦ. На зборках можна купіць беларускую прэсу ды паслухаць навіны пра важнейшыя падзеі на Беларусі.

Клюб таксама арганізуе паездкі ў цікавыя мясьціны Вікторыі, наведвае тэатры і рэстараны.

Старшыня Клюбу Спадар Г. Шайпак прывітаў усіх прысутных ды пажадаў ім Вясёлых Сьвят, ну і дачакацца наступнае зборкі ўжо ў 2002-м годзе, якая адбудзецца 31-га студзеня 2002 г.

Дзеля таго, што гэта была разьвітальная зборка ў гэтым годзе, дык на сталах стаялі розныя напіткі і поўна розных смачных страў. Была разыграна латарэя з шматлікімі выйгрышамі...

Прэба адзначыцць, што вельмі прыемна і весела правялі некалькі гадзін у сяброўскай атмасфэры сябры Беларускага Сацыяльнага Клюбу ў Мэлбурні, Аўстралія.

*Аўген ГРУША*

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 11 Беласток, 2001. 44 бач.
2. **Беларускі Гістарычны Зборнік.** Беларускае Гістарычнае Таварыства, Беласток, Польшча. Кніга 16, 2001, 238 бач.
3. **Адзінае на патрэбу.** а. Канстанцін Бандарук, Беласток-Прага. 1998, 202 бач.
4. **Ojczystosc.** Sokrat Janowicz. Olsztyn, Польшча. 2001, 256 бач.
5. **Кантакты і Дыялогі.** Менск. № 9-10, 2001, 64 бач.
6. **Роднае Слова.** Штомесячны навуковы і мэтадычны часопіс, Менск. № 11(167), 2001, 114 бач.

## ПОЛЬСКІЯ ДЫПЛЯМАТЫ НЯ ХОЧУЦЬ ЕХАЦЬ ПРАЦАВАЦЬ У БЕЛАРУСЬ

Сур'ёзны польскі часопіс "Палітыка" зьмясьціў рэйтынг амбасадаў Польшчы за мяжой. У часе адмысловага апытаньня амбасады былі ацэненыя польскімі дыпляматамі і журналістамі паводле прэстыжу, палітычнага значэньня і ўмоваў жыцьця. Польская амбасада ў Менску аказалася ў канцы рэйтынгу – сярод краінаў трэцяга сьвету...

## Пра "Зорачкі" памятаюць

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры сумесна з паэтычным тэатрам аднаго акцёра "Зніч" нядаўна ладзілі вечарыну "Зорачкі", прысвечаную 95-й гадавіне з дня нараджэння беларускага паэта Сяргея Новіка-Пяюна, аўтара знакамітай песні "Зорачкі" ("На выгнанні") і вальса "Над Шчарай".**

Спадкаемніца паэта Вольга Зубовіч перадала ў дар літаратурнаму музею асабістыя рэчы і рукапісы паэта. Сяргей Новік-Пяюн працаглы час жыў і працаваў у Слоніме ў 30-х – 40-х гадах мінулага стагоддзя. Яго вальс "Над Шчарай" для людзей старэйшага пакалення і сёння з'яўляецца песняй іх маладосці, таксама як для многіх былых вязняў сталінскага ГУЛАГу — яго песня "Зорачкі", якая доўгі час лічылася народнай. Імя гэтага таленавітага чалавека, былога палітвязня, па праву вярнулася ў шэрагі беларускіх пісьменнікаў. У Слоніме, аднак, яго імя ніяк не ўвекавечана.

## Тэлевізыйная прэмія за кнігу пра Скарыну

Літоўская пісьменьніца й перакладчыца зь беларускае мовы, Эмілія Легутэ стала ляўрэатам літаратурнае прэміі Віленскага тэлебачаньня за 2001 год. Спадарыня Легутэ атрымала гэтую ўзнагароду за мастацка-біягрфічную кнігу пра Францішка Скарыну, чыё жыцьцё й праца шчыльна зьвязаныя зь Вільняю, дзе ён выдаў першую тут кнігу, па-беларуску. Кніга гэтая выдадзеная пры дапамозе Дэпартамэнту нацыянальных меншасьцяў і эміграцыі Літвы й нядаўна была прэзэнтаваная на сэмінары кіраўнікоў грамадзкіх арганізацыяў тутэйшых нацыянальных супольнасьцяў. Кніга гэтая выклікала вялікую цікавасьць у тых, хто цікавіцца складанай і багатай гісторыяй Вялікага Княства й яе сталіцы – старадаўняе Вільні, а таксама роляю ў ёй беларускае культуры.